

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша СЛОВА.*pdf*



**Трэці год выдання** **№ 52 (156) 26 снежня 2024 г.**


# З Новым 2025 годам!




## З Новым годам!

З Новым годам, з Новым годам!
З новай песняй, з новай казкай!
Зачаруем мімаходам
Долі ходы думкай-краскай!
Кінем покліч гулказвонны
Ад аконца да аконца,
Свет паклічам мёртва-сонны
Аж да сонца, аж да сонца!
Для унукаў, для праўнукаў
Расцярэбім сцежкі-шляхі;
Хай пануюць над прынукай -
Каб аж к небу лёту ўзмахі!..
Над зямлёй зардзіць вясёлка
После бураў, ліхалеццяў;
Бацьку, маці жыць нялёгка, -
Хай жа лёгка жывуць дзеці!
З Новым годам, што крыніцай
Новай пойдзе ў пераходзе,
Беларуская зямліца!
Беларускі наш народзе!

***Янка Купала.***

## Лідзянін Юрый Пацюпа абараніў дысертацыю

У Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. адбылася абарона дысертацыі ўраджэнца Лідчыны Пацюпы Юрыя Віктаравіча "Беларускае народнае вершаванне: узроўні, метрыка, рытміка, строфіка" на атрыманне ступені кандыдата філалагічных навук (спецыяльнасць фалькларыстыка).





Супер! Шчыра віншем. Хай цяпер у ВАКу ўсё пройдзе хутка і лёгка!

Станіслаў Суднік

# БЕЛАРУСКАЯ МЕТАЛІНГВІСТЫКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдних нумарах.)*

### Кут. Куцця. Покуць. Кутнік. Пакута

**Кут** уяўляе сабой геаметрычную фігуру, утвораную зломам простай лініі. **Вугал** - гэта тое самае. Розніца паміж вуглом і кутом тая, што назіральнік да вугла, меншага за 180 град. знайходзіцца знадворку, а да кута - знутры. Геаметрычная фігура з трыма вугламі можа з аднолькаыым правам называцца і **трохкутнікам**, і **трохвугольнікам**. Усе залежыць ад таго, дзе сябе бачыць назіральнік. Для беларуса больш прыймальнае слова **трохкутнік**. Бо яму прасцей уявіць сябе, нават падсвядома, унутры, чым знадворку ўсіх вуглоў.

Беларускія патрыёты ад матэматыкі доўга змагаліся, каб у бела-рускай матэматычнай тэрміналогіі замяніць слова ***трохвугольнік*** на слова ***трохкутнік***, хаця і так, і так правільна. Хіба што ў слове ***трохкутнік*** менш літар.

Тут да месца будзе дадаць, што і па часе ўзнікнення слова ***кут*** больш старажытнае, чым ***вугал***. Гэтае слова мы бачым яшчэ ў санскрыце. Ёсць там словы ***hima-kuta*** - *снежная вяршыня*. ***Kuta*** - тут *вяршыня*, а любая гара здалёк падобная на востры кут ці вугал. Ёсць у санскрыце і слова ***dhanya-kuta***, што абазначае *свіран для збожжа*. Ад гэтага слова нам засталося слова ***катух*** - адгароджаная частка таго самага свірана.

У расейцаў няма выбару. У іх нашым *куту* і *вуглу* адпавядае ўсяго толькі слова *угол*. У рускай мове мы маем і ***угол улиц***, а вось у беларускай мове гэтаму тэрміну адпавядае ***рог вуліц***. Ну і хто там нешта кажа пра беднасць беларускай мовы?

Хата знадворку мае **чатыры вутлы**, а ўнутры мае **чатыры куты**. Месца ў адным з кутоў, у якім ёсць абразы і ля якога стаіць стол, называецца **покуццю**. Гэта самае ганаровае месца ў хаце. На покуці саджаюць самага ганаровага госця. Калі гасцей няма, на покуць сядае гаспадар.

На покуць у вечар перад Калядамі ставяць гаршчок з **куццёй**. **Куцця** - гэта звычайна каша з тоўчаных (ні ў якім разе не сечаных) ячменных круп. Зрэдку бывае з пшанічных. Цяперашнія гаспадыні моцна ў этнаграфію не ўдараюцца і могуць прыгатаваць куццю і з грэчкі, і з проса, і з рысу. Такой бяды. **Куцця** бярэ назву ад гэтага ганаровага становішча **ў куце**, **на покуці**. А ўжо ад **куцці**, што ў гаршчку, бярэ назву і апошні вечар перад Клядамі-**куцця**. Па аналогіі з гэтай куццёй называюць яшчэ вечары перад Новым годам і Трыма Каралямі. Куцця перад Калядамі посная, падаюць толькі посныя стравы. Перад Новым годам куцця скаромная і як найбагацейшая, шчодрая. З-за гэтага яшчэ мае назву **“Шчадрэц”**. Перед Трымя



Каралямі куцця зноў посная. На куццю не проста вячэраюць, а **"куцюююць"**.

Куцюююць у Беларусі і каталікі і праваслаўныя. Куцюююць усюды як бы аднолькава і ў той жа час па-рознаму. Што ні край - то абычай. Гэта не пра нас, і не пра куццю. Тут што ні вёска - то нешта інакшае. Ды што там вёска - у дзвюх суседніх хатах знойдзеш адрозненні, асабліва цяпер пры багацці самых розных прадуктаў. Гэта некалі ў 60-я гады 20-га стагоддзя, калі прывезлі ў Сейлавічы марожаны хек, то будзе той хек ва ўсіх хатах. Прывезлі селядцы - будуць селядцы, а прывезлі камсу, то будзе камса. І ўсяроўна стравы будуць розніцца. Неад’емным прадуктам на куццю быў мак, то ён быў, мабыць, ува ўсіх. А ўжо з чым і ў якім выглядзе. У Сейлавічах традыцыйна гэта аладачкі з макам. У іншых месцах іншыя мучныя вырабы. Верашчака з грыбамі. Магла быць, магла і не быць... Але на куццю на покуці мусяць быць: гаршчок з куццёю, кавалак хлеба, соль, у каталікаў каляда (аплатка), свечка, як правіла ў шклянцы з жытам. Калі свечка ў падсвечніку, то недзе тое жыта павінна быць - хоць у каласах, хоць у зерні.

Як ужо адзначалася, па паходжанні слова ***кут***, як аднаскладовае, вельмі старажытнае. Яно мае шмат пераносных значэнняў. На Беларусі на карэнныя зубы могуць сказаць: “Кутнія зубы”. Кватарант, які здымаў **куток** або **закуток**, называўся некалі ***кутнік***. Тут ***куток*** у сэнсе жытло.

*“Мой родны **кут**, як ты мне мілы”*, - піша Якуб Колас і розумее пад словам ***кут*** слова ***край***, сваю старонку.

Наступныя словы, якія выходзяць са слова ***кут*** - гэта ***пакутнік*** і ***пакута***. Першаснае значэнне слова ***пакутнік*** - чалавек, які не мае свайго жытла і туляецца *па* чужых *кутках*, або чалавек, які туляецца па чужых краях. Гэтае тулянне - сапраўдная ***пакута***. Пазней слова ***пакута*** займела шмат іншых сэнсаў: **мУка, цярпенне** і г.д. Але першая і найбольшая пакута для чалавека - страціць свой дом і свой край. Беларусы на чужыне, нават калі жывуць добра, усяроўна ***пакутуюць***. Адвечная цяга дадому не пераадольваецца і не замазваецца нічым.

# КРАЯЗНАЎЧЫ КАЛЯНДАР ЛІДЧЫНЫ НА 2025 ГОД

Лідская зямля мае сваю слаўную і даўнюю гісторыю. Стагоддзямі насялялі наш край працавітыя, высакародныя, багатыя на мастацкія таленты людзі, якія зрабілі свой унёсак у развіццё гаспадаркі, навукі, культуры і мастацтва Лідчыны.

Гэты краязнаўчы каляндар змяшчае юбілейныя даты 2025 года і кароткія звесткі пра вядомых людзей і падзеі гісторыі Лідчыны. Спадзяёмся, што наша выданне будзе карысным для шырокага кола чытачоў, краязнаўцаў, бібліятэкараў.




**750 гадоў** з дня нараджэння Гедыміна (каля 1275 - 1341 гг.) Вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага, заснавальніка Лідскага замка.

**610 гадоў** (ліпень 1415 г.) першай згадцы пра Мыто (Лідскі р-н).

**575 гадоў** таму назад (1450 г.) пачата будаўніцтва касцёлаў у Крупе (Крупаве) і Новай Ваверцы (Дылеве) Лідскага павета.

**565 гадоў** (1460 г.) з часу першага вядомага пісьмовага ўпамінання вёскі Крупава. Згадваецца, як вёска і маёнтак Крупа (Крупуя), шляхецкая ўласнасць.



**545 год** з дня нараджэння Юрыя Радзівіла (каля 1480 - 1541 гг.). Дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Меў маёнткі ў Ашмянскім, Гарадзенскім паветах, у Жырмунах, Дакудаве, Сяльцы і Зблянах Лідскага павета.

**530 гадоў** (1495 г.) з часу першага вядомага пісьмовага ўпамінання вёскі Голдава. Згадваецца, як двор Оўдава (Олдава).

**500 гадоў** (1525 г.) з часу першага вядомага пісьмовага ўпамінання вёскі Сялец (Ганчарскі с\с). Згадваецца як маёнтак Ю.М. Радзівіла ў Лідскім павеце Навагрудскага ваяводства.

**505 гадоў** (1520 г.) з часу першага вядомага пісьмовага ўпамінання вёскі Дворышча.

**455 гадоў** таму (1570 г.) Ваверка Лідскага павета атрымала статус мястэчка.



**435 гадоў** таму, 17 верасня 1590 г. прывілеем караля і Вялікага князя Жыгімонта III Вазы г. Ліда было нададзена Магдэбурскае права і гарадская пячатка з ільвом і двума перакрыжаванымі ключамі (сучасны герб г. Ліды).




*Краязнаўчы каляндар Лідчыны на 2025 год / ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" ; Аддзел абслугоўвання і інфармацыі / [склад. Г.Р. Курбыка, рэдактары А.А. Быстрыцкая]. - Ліда : ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" ; Аддел бібліятэчнага маркетынгу, 2024. - 16 с.*

**355 гадоў** таму (1670 г.) кароль і Вялікі князь Міхал Вішнявецкі сваім прывілеем пацвердзіў Лідзе Магдэбурскае права.

**290 гадоў** таму (1745 г.) адкрыта школа піяраў у Лідзе.

**260 гадоў** (1765) з часу першага вядомага пісьмовага ўпамінання вёскі Гарні. Згадваецца, як вёска, цэнтр "дзяржавы" ў Лідскай эканоміі.



**255 гадоў** таму (1770 г.) пабудаваны Лідскі Крыжаўзвіжанскі касцёл па праекце архітэктара І.К. Глаўбіца.

**230 гадоў** таму (14 снежня 1795 г.) Лідчына ўключана ў склад Расійскай імперыі. Начальнікам Лідскага павета прызна-





чаны секунд-маёр расійскіх войскаў Карл Мейр.

**230 гадоў** (1795 г.) назад у вёсцы Голдава Лідскага павета пабудавана Царква Раства Прасвятой Багародзіцы (драўляная).



**235 гадоў** назад (1790, Лідскі павет - 1878) нарадзілася графіня Сафія дэ Шаузёль-Гуф'е (у дзявоцтве Тызенгаўз) - фрэйліна дзвюх рускіх імператрыц, аўтарка шэрагу гістарычных раманаў, мемуарыстка. Пакінула каштоўныя ўспаміны пра часы праўлення Александра I, вайну 1812 года і інш.

**215 гадоў** таму (канец 1810 г.) пабудавана Крыжаўзвіжанская царка ў Бабрах Лідскага павета.

**185 гадоў** з дня нараджэння Дамбавецкага Аляксандра Станіслававіча (1840-1914 гг.), уладальніка маёнтка Бердаўка (1864 - 1914 гг.) (пабудаваў Бердаўскі палац, заснаваў парк), краязнаўца, ганаровага суддзі Лідскага павета.

**170 гадоў** з дня нараджэння Столе Юліюша (1855 - 1927 гг.), уладальніка аднаго з буйнейшых у Еўропе шкляного завода "Нёман" у г. Бярозаўка. Пахаваны ў Бярозаўцы.

**165 гадоў** з дня нараджэння Вільгельма Краеўскага (1860 - 1905 гг.), аднаго з заснавальнікаў шкляной вытворчасці на Лідчыне.

**165 гадоў** (1860 г.) з часу першага вядомага пісьмовага ўпамінання вёскі Жырмуны. Згадваецца як сяло ў Лідскім павеце. З 1861 года цэнтр Жырмунскай воласці Лідскага павета.

**160 гадоў** таму (восень 1865 г.) у Дакудаве была адчынена народная навучальня.

**160 гадоў** назад (1865 г.) у вёсцы Дакудава Лідскага павету пабудавана Царква Раства Прасвятой Багародзіцы (драўляная), 1867 (мураваная).

**160 гадоў** назад (1865 г.) у вёсцы Мыто Лідскага павета пабудавана Царква Раства Прасвятой Багародзіцы (драўляная), 1866 (мураваная).

**150 гадоў** таму (1875 г.) пабудавана і асвечана ў імя Святога Георгія царква на Лідскіх праваслаўных могілках на сродкі, ахвяраваныя аднадворцам Антонам Васнеўскім.



**150 гадоў** (1875 г.) назад адкрылася Першая гута (шкляная майстэрня) каля Бярозаўкі.

**145 гадоў** таму назад (восень 1880 г.) святар Сяргей Шостаў наладзіў у Радзівонішках Лідскага раёна царкоўнапрыходскую школу.

**135 гадоў** таму (восень 1890 г.) адкрыты школы пісьменства ў Баярах Смалоцкіх, Вангах і Лазянах, а таксама царкоўна-прыходская школа ў Баярах Лідскага павета.

**125 гадоў** таму (канец 1900 г.) адкрыты школы пісьменства ў Баневічах, Жучках, Мінойтах, Навасадах і Заполлі Лідскага павета.

**120 гадоў** назад (1905 г.) выйшла першая кніга па гісторыі нашага горада. (Шимелевич, М. Город Лида и Лидский замок: исторический очерк. Вильна: Типография "Русский Починъ", 1905).

**120 гадоў** назад пабудаваны Касцёл Святога Міхаіла Арханёла у вёсцы Белагруда. Храм уключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.



**115 гадоў** таму (1910 г.) Лідская жаночая навучальня пераўтворана ў Лідскую жаночую гімназію імя М. Навіцкай.

**115 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Мікалаевіча Ігнатава (1910-1944). У гады Вялікай Айчыннай вайны адзін з кіраўнікоў патрыятычнай падпольнай групы. 23 чэрвеня 1944 года расстраляны. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені. Яго імя носіць адна з вуліц нашага горада.

**115 гадоў** з дня нараджэння Драгуна Юльяна Баляслававіча (1910-1973). У гады Вялікай Айчыннай вайны прымаў актыўны удзел у арганізацыі партызанскага атрада імя Чкалава. У 1944-1949 гг. - галоўны рэдактар газеты "Уперад". Ганаровы грамадзянін горада Ліды.

**110 гадоў** таму (восень 1915 г.) Алаіза Пашкевіч (Цётка) адкрыла ў Лідзе першую беларускую школу.

**110 гадоў** з дня нараджэння Гладышава Яфрэма Іванавіча (1915 г., Бабруйскі р-н - чэрвень 1941 г.), першага старшыні Лідскага гарвыканкама (люты 1940 - чэрвень 1941). Адным з першых уключыўся ў стаханаўскі рух, усесаюзны рэкардсмен па распілоўцы лесу. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР першага склікання.

**105 гадоў** з дня нараджэння Кліменкі Паўла Іванавіча (1920-1941), лейтэнанта войск НКВД, загінуў у першыя дні вайны на Лідчыне, здзейсніў подзвіг , падобны да подзвігу героя бессмяротнай паэмы А.Твардоўскага "Василий Теркин".

**100 гадоў** з дня нараджэння Клімко Аляксандра Аляксандравіча (1925-1944). У гады Вялікай Айчыннай вайны адзін з арганізатараў патрыятычнай падпольнай групы. З траўня 1944 года расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені. Яго імя носіць адна з вуліц нашага горада.



**100 гадоў** з дня нараджэння Качана Анатолія Гаўрылавіча (1925-1944). У гады Вялікай Айчыннай вайны актыўны удзельнік патрыятычнай падпольнай групы. З траўня 1944 года расстраляны нямецка-фашысцкімі






захопнікамі. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені. Яго імя носіць адна з вуліц нашага горада.

**100 гадоў** з дня нараджэння Халявінскага Леаніда Фёдаравіча (1925-1943). У гады Вялікай Айчыннай вайны актыўны удзельнік патрыятычнай падпольнай групы. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені. Яго імя носіць адна з вуліц нашага горада.

**85 гадоў** назад (1940 г.) Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР утвораны Лідскі раён у складзе Баранавіцкай вобласці.

**85 гадоў** таму назад (студзень 1940 г.) у Лідзе адкрыты педнавучальня і музычная навучальня.

**85 гадоў** назад Ліду наведаў народны паэт Беларусі Янка Купала (сакавік 1940 г.). З ім прыехалі Зэлік Аксельрод, Пятро Глебка, Алесь Кучар. У Лідзе да іх далучыліся Валянцін Таўлай, Ніна Тарас, Анатоль Іверс, Пятрусь Граніт.

**85 гадоў** таму пры гарадской бібліятэцы адкрылася дзіцячая бібліятэка (чэрвень 1940 г.).

**85 гадоў -** 1940 год - падрыхтоўка да выбараў у Савет Нацыянальнасцей СССР. Кандыдат ад Ліды Сяргей Прытыцкі. Ад Слабадской выбарчай акругі № 306 у Вярхоўны Савет БССР вылучаны Янка Купала.

**80 гадоў** таму (5 жніўня 1945 г.) гарадской бібліятэцы прысвоена імя Янкі Купалы.

**70 год** таму (восень 1955 г.) у Лідзе адкрыта дзіцячая музычная школа.

**60 гадоў** таму (10 траўня 1965 г.) Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР пасмяротна ордэнам Айчыннай вайны I ступені ўзнагарожданы М. Ігнатаў, А. Клімко, М. Кастраміна, М. Наказных, А. Качан, Л. Халявінскі, Л. Кудлачоў.



**60 год** таму (1965 г.) быў устаноўлены помнік-абеліск на месцы растрэлу яўрэяў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

**55 гадоў** таму назад (1960 г.) міністр абароннай прамысловасці выдаў загад аб пачатку будаўніцтва ў Лідзе завода "Оптык".

**55 год** таму (канец 1970 г.) званне Народнага калектыву прысвоена ансамблю "Лідчанка" гарадскога Дома культуры.

**45 гадоў** таму назад г. Ліда (1980 г.) ўзнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны" і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

**40 год** таму (1985 г.) пры Бердаўскім ДК быў заснаваны сямейны ансамбль Парфенчыкаў.

**35 гадоў** таму назад пастановай Савета Міністраў БССР № 48 ад 5 сакавіка 1990 года быў створаны заказнік рэспубліканскага значэння "Дакудаўскі" для захавання месцаў масавага вырастання журавін і стабілізацыі гідралагічнага рэжыму верхавога балота.

**35 гадоў** таму назад (1980 г.) пачала выходзіць газета "Наша слова".

**30 гадоў** таму назад (1995 г.) г.п. Бярозаўка Лідскага раёна нададзены статус горада.

**30 гадоў** назад (1995 г.) створаны ансамбль песні і танца "Талака", што дзейнічае на базе Лідскіх электрычных сетак.

**25 гадоў** таму (2000 г.) пачаў выдавацца літаратурна-мастацкі часопіс "Ад лідскіх муроў".

**20 гадоў** назад (17-18 верасня 2005 г.) у Лідзе прайшоў першы Міжнародны рыцарскі турнір "Замак Гедыміна"; з 2007 года "Меч Лідскага Замка".

**15 гадоў** таму (3 снежня 2010 г.) закладзены першы камень у фундамент Лідскага завода гарачай ацынкоўкі металаў у раёне в. Даліна.

**15 гадоў** назад (2010 г.) у Лідзе пабудаваны касцёл Святой сям'і.

**15 гадоў** назад (2010 г.) у Лідзе прайшлі рэспубліканскія Дажынкі, якія змянілі горад.



**10 гадоў** назад (2015 г.) у Лідзе насупраць раённага Палаца культуры адкрыты памятны знак у гонар герояў-авіятараў.

**5 гадоў** назад (2020 г. ) Ліда стала культурнай сталіцай Беларусі.

## ЛІДСКІЯ ЮБІЛЯРЫ 2025 ГОДА

### СТУДЗЕНЬ

**1 - 80 гадоў** з дня нараджэння Валерыя Чарапіцы (1945 г., г. Ліда), кандыдата гістарычных навук, прафесара Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

**6 - 70 гадоў** з дня нараджэння Станіслава Станіслававіча Смольскага (1955 г., в. Хадзюкі Лідскага раёна), першага намесніка начальніка ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь.



**10 - 100 гадоў** з дня нараджэння Рыгора Філатавіча Фамічова (1925 г., в. Рунцава Курскай вобл. - 1978 г.) - першы сакратар Лідскага гаркама КПБ (люты 1961 г. - студзень 1968 г.). Пры Фамічове Р.Ф. ў Лідзе пабудаваны Лакафарбавы завод (1963-1968 гг.), рэканструяваны аўтарэмзавод (1962-1965 гг.), хлебакамбінат, мясакамбінат, уведзены ў эксплуатацыю новыя цэхі і ўчасткі на абутковай фабрыцы, заводзе электравырабаў, на "Лідсельмашы", камбінаце харчканцэнтратаў. Пабудавана сярэдняя школа





№ 11, кінатэатр "Юбілейны", адкрыты планетарый і Лідскі індустрыяльны тэхнікум, насыпаны Курган Бессмяроцця.

14 - 90 гадоў з дня нараджэння Івана Іосіфавіча Сяржынскага (1935 г.), беларускага эканаміста, кандадата эканамічных навук. Жыў на Лідчыне з дзяцінства да 1953 г., вучыўся ў сярэдняй школе № 3, Лідскім педвучылішчы.

**ЛЮТЫ**

**2 - 70 гадоў** з дня нараджэння Ірыны Сямёнаўны Бараздзіной (1955 - 2019 гг., г. Ліда), настаўнічала ў школах горада Ліды. Аўтар кніг "Из соли, сахара и перца" і "Живу по чувствам".



**3 - 105 гадоў** з дня нараджэння Дзмітрыя Іванавіча Жабінскага (1920 - 1945). Штурман 75-га гвардзейскага штурмавога авіяцыйнага палка 1-й гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай дывізіі, 8-й Паветранай арміі, 4-га Украінскага фронту. Герой Савецкага Саюза. (1944). Вызваляў Ліду ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**8 - 75 гадоў** з дня нараджэння Віктара Мітрафанавіча Бачарова (1950 г., г. Краснаярск - 2004 г.), дырэктара сярэдняй школы № 13, паэта, празаіка, самадзейнага кампазітара, педагога.

**19 - 100 гадоў** з дня нараджэння Івана Міхайлавіча Саўко (1925 г., в. Падкасоўе Навагрудскага раёна - 1998 г.) - самадзейнага паэта. З 1957 г. жыў і працаваў на Лідчыне, асноўную частку свайго жыцця аддаў вядомай на Лідчыне гаспадарцы - саўгасу "Тарнова". "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі". Аўтар трох зборнікаў паэзіі.

**21 - 110 гадоў** з дня нараджэння Фёдара Іларыёнавіча Сіранкова (1915 - 1985гг.). Інвалід Вялікай Айчыннай вайны, інжынер, прараб у розных будаўнічых арганізацыях. У часопісе "Север" у № 4-5 за 1977 г. была апублікавана яго дакументальная аповесць "У балотах Сінявіна" - пра спробу прарыву блакады Ленінграда ў верасні 1942 г.

**САКАВІК**

**2 - 70 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Леанідавіча Крупы (1955 г., в. Мастаўляны Лідскага раёна), педагога, краязнаўца, музеязнаўца, дырэктара Бердаўскай сярэдняй школы. Аўтар кнігі "Пакінуць след на зямлі".




**17 - 90 гадоў** з дня нараджэння Таццяны Іванаўны Сямёнавай (1935 г.). Працавала ў дашкольных установах горада Ліды. Аўтар кніг "Осенний вальс" і "Позвала судьба в дорогу".

**25 - 55 гадоў** з дня нараджэння Парфірыя, епіскапа Лідскага і Смар-гонскага (Алег Сцяпанавіч Прэднюк).

**КРАСАВІК**

**13 - 60 гадоў** з дня нараджэння Юрыя Лысага (1965 г., г. Ліда), беларускага вучонага ў галіне кардыялогіі, кандыдата медыцынскіх навук.

**ТРАВЕНЬ**

**1 - 95 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Парфір'евіча Дронава (1930 г.), ветэран ракетных войск, палкоўнік ў адстаўцы, мае ўзнагароды. Аўтар кніг "Не ведая покоя", "Любовь - мой плен и вдохновенье" і інш.

**9 - 90 гадоў** з дня нараджэння Аляксея Аляксандравіча Бурдуна (1935 г., в. Збляны Лідскага раёна), беларускага матэматыка, кандыдата фізіка-матэматычных навук.



**10 - 40 гадоў** з дня нараджэння Аляксея Аляксандравіча Сымановіча (1985, г. Ліда), настаўніка рускай мовы і літаратуры гімназіі № 1 г. Ліды. Магістр літаратуразнаўства. Настаўнік года 2014.

**11 - 70 гадоў** з дня нараджэння Віктара Аляксандравіча Праўдзіна (1955 г., г. Ліда). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар кніг "Візіцёр з поўначы", "Эксгумацыя", "Шлях да Галгофы" і іншых. Лаўрэат нацыянальнай літаратурнай прэміі Беларусі (2021 г.)

**ЧЭРВЕНЬ**



**1 - 65 гадоў** з дня нараджэння Інесы Генадзьеўны Белуш (1960, Дзятлаўскі раён), старшыня Лідскага раённага Савета дэпутатаў.

**3 - 160 гадоў** з дня нараджэння Марыі Канстанцінаўны Навіцкай (у дзявоцтве Снітко, 1865 - (?)). Заснавальніца Лідскай жаночай гімназіі.

**8 - 80 гадоў** з дня нараджэння Валерыя Васільевіча Сліўкіна (1945 г., г.Ліда), кандыдата геаграфічных навук.

**12 - 75 гадоў** з дня нараджэння Франца Вісманта (1950 г., г. Ліда), беларускага вучонага ў галіне фізіялогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара.

**24 - 95 гадоў** з дня нараджэння Леаніда Хітруна (1930 г., в. Навіцкія-2 Лідскага раёна), дзяржаўнага і гаспадарчага дзеяча СССР (міністр СССР, член ЦК КПСС, народны дэпутат СССР).





**ЛІПЕНЬ**

**23 - 65 гадоў** з дня нараджэння Наталлі Пятроўны Баранавай (Галаватай) (1950 г., г. Ліда), доктара педагагічных навук, рэктара Дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.



**29 - 80 гадоў** з дня нараджэння Пятра Пятровіча Лабана (1945 г., в. Навапрудцы Лідскага раёна), дырэктара Лідскіх электрасетак, камандзіра аддзела беларускіх энергетыкаў па ліквідацыі наступстваў землятрусу ў Спітаку (Арменія). Ганаровы грамадзянін г. Ліды.

**ЖНІВЕНЬ**

**6 - 310 гадоў** з дня нараджэня Мацея Догеля (1715 г., в. Гембулы Лідскага павета - 1760 г.), гісторыка, правазнаўца, педагога.



**16 - 105 гадоў** з дня нараджэння Бяды Леаніда Ігнатавіча (1920 - 1976 гг.), ваеннага дзеяча, генерал-лейтэнанта авіяцыі, заслужанага ваеннага лётчыка СССР, двойчы Героя Савецкага Саюза (1944 г., 1945 г.). Удзельнік вызвалення горада Ліды ў Вялікую Айчынную вайну. Яго імя носяць вуліцы горада Ліды і Менска. Ганаровы грамадзянін горада Ліды.

**ВЕРАСЕНЬ**

**2 - 75 гадоў** з дня нараджэння Аркадзя Якаўлевіча Дзвілянскага (1950 г., Ліда - 2010 г.), беларускага і яўрэйскага музычнага педагога, кампазітара, кандыдата мастацтвазнаўства.

**12 - 125 гадоў** з дня нараджэння Аслікоўскага Мікалая Сяргеевіча (1900 - 1971 гг.), ваеннага дзеяча, генерал-лейтэнанта, удзель-ніка грамадзянскай вайны, вызвалення Беларусі (у т.л. горада Ліды) у Вялікую Айчынную Вайну. Герой Савецкага Саюза. Ганаровы грамадзянін горада Ліды.

**15 - 95 гадоў** з дня нараджэння Аляксандра Уладзіміравіча Богуша (1930 г., Карэліцкі р-н), журналіста, краязнаўца, рэдактара лідскай газеты "Уперад" у 1963-1969 гг.

**КАСТРЫЧНІК**

**5 - 70 гадоў** з дня нараджэння Валянціна Лучко (1955 г., в. Карнілкі Лідскага раёна), беларускага біёлага, кандыдата біялагічных навук.



**10 - 100 гадоў** з дня нараджэння Балгарына Сяргея Іванавіча (1925 - 2002 гг.). Удзельнічаў у вызваленні горада Ліды ў час Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза. Ганаровы грамадзянін горада Ліды. Каля вёскі Парачаны Лідскага раёна ўсталявана стэла ў гонар подзвігу, які ён здзейсніў.

**10 - 85 гадоў** з дня нараджэння Канстанціна Тарасава (1940 г.), беларускага пісьменніка. У другой палове 60-х гадоў працаваў на шклозаводзе "Нёман" (г. Бярозаўка).

**25 - 75 гадоў** з дня нараджэння Аляксандра Іосіфавіча Ласмінскага (1950 г., г. Ліда), журналіста, краязнаўца, фотамастака, кіраваў народным фотаклубам "Гродна" і ДУ "Тэлерадыёвяшчальны канал "Гродна-плюс".




**26 - 55 гадоў** з дня нараджэння Андрэя Аляксеевіча Асташова (1970, г. Ліда) - мастак, скульптар, член Беларускага саюза мастакоў, працуе ў камені і бронзе, займаецца малюнкам і графікай, аўтар мастацкіх плакатаў і буклетаў.

**ЛІСТАПАД**

**23 - 120 гадоў** з дня нараджэння Кажамякіна Аляксандра Уладзіміравіча (1905 - 1996 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, вызваляў Лідчыну. Ганаровы грамадзянін горада Ліды.

**СНЕЖАНЬ**

**5 - 75 гадоў** з дня нараджэння Таццяны Навуменкі (1945 г., г. Ліда), беларускага вучонага ў галіне экалагічнай эпідэміялоіі, кандыдата медыцынскіх навук.

**17 - 95 гадоў** з дня нараджэння Алесі Бурак (1930 - 2017 г. Ліда) настаўнічала ў школах г. Ліды. Аўтар зборніка вершаў "Прастора дабрыні".



**20 - 185 гадоў** з дня нараджэння Казіміра Дамінікавіча Альхімовіча (в. Дэмбрава Лідскага пав. - 1916 г.), беларускага жывапісца, графіка, дэкаратара, аўтара жывапісных і пластычных работ для касцёлаў.

**25 - 85 гадоў** з дня нараджэння Івана Іванавіча Багдзевіча (1940 г., г. Ліда), беларускага вучонага ў галіне біятэхналогіі сельскагаспадарчых жывёл, члена-карэспандэнта Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.





# Дарослыя дзецям

**Падвядзены вынікі VI рэгіянальнага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай**

18 снежня 2024 года ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылося літаратурнае свята - урачыстае падвядзенне вынікаў і ўзнагароджванне пераможцаў VI адкрытага рэгіянальнага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям". Конкурс носіць імя найбуйнейшай лідскай дзіцячай пісьменніцы Веры Навіцкай, якая ўзначальвала "Лідскую прыватную жаночую гімназію Ф.Л. і В.С. Навіцкіх" напачатку XX стагоддзя і напісала шэраг кніг для дзяцей, у тым ліку тэтралогію пра Мусю Старабельскую. Дадзены конкурс ладзіцца ў шосты раз, упершыню ён прайшоў у 2014 годзе, і па-ранейшаму прыцягвае ўвагу аматараў літаратурнай творчасці, садзейнічае раскрыццю новых талентаў, падтрымлівае і заахвочвае паэтаў і празаікаў да напісання твораў для дзяцей.

Сёлета ў конкурсе ўзялі ўдзел 10 літаратараў у жанрах: “Паэзія”, “Проза”, “Драматургія”. Усе творы, якія паступілі на конкурс, выдадзены асобным зборнікам, яго можна было набыць тут жа.

Ацэньвала паступіўшыя творы журы ў складзе: Арцём Мартынаў, дырэктар Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы, Алена Быстрыцкая - намеснік дырэктара Лідскай рваённай бібліятэкі імя Янкі Купалы і Станіслаў Суднік - рэдактар лідскага літаратурнага альманаха “Ад лідскіх муроў”. Вяла імпрэзу галоўны бібліёграф бібліятэкі Галіна Курбыка, а ўручаў дыпломы і канверты дырэктар бібліятэкі Арцём Мартынаў.










Першую прэмію атрымаў літаратуразнавец,, паэт, пісьменнік і драматург, жыхар горада Слонім Сяргей Чыгрын (конкурс жа рэгіянальны) за дзве п’есы для дзяцей, другую прэмію падзялілі паміж Уладзімірам Васько (апавяданні) і Наталляй Тананушка (замалёўкі з



















дзяцінства), трэцяя прэмія дасталася Ірыне Маркевіч (вершы) і Станіславе Белагаловай (вершы).

Усе астатнія, хто прымаў удзел у конкурсе, атрымалі падзячныя падарункі.

Разыначкай гэтай цырымоніі традыцыйна з'яўляецца прадстаўленне рэдкага лідскага выдання, якое рыхтуецца спецыяльна да цырымоніі. Раней гэта былі 1-я і 2-я кніжкі тэтралогіі Веры Навіцкай, чыё імя носіць конкурс, кніжачка дзіцячых вершаў Марыі Канапніцкай "Ад вясны да зімы", фрагмент успамінаў Альжбеты Табенскай "Мы





так хацелі вучыцца”. Сёлета адбылася прэзентацыя кніжачкі вершаў Камілы Юрэвіч з Нарбутаў "Калядкі Камілы Нарбут для кузінак і сябровак на 1852 год", у якой змешчаны 25 вершаў Камілы Нарбут у перакладзе Станіслава Судніка. Па пэўных прычынах гэтыя кніжкі выдаюцца невялікім накладам, але ў Лідзе іх можна знайсці ў бібліятэцы і Доме Таўлая, ёсць яны ў Нацыянальнай бібліятэцы. Сёлетняя кніжачка разаслана ва ўсе асноўныя бібліятэкі згодна з лістом рассылкі.

Прэмія імя Веры Навіцкай на сёння - як падаецца, адзіная літаратурная прэмія, якая афіцыйна ўручаецца ў Гарадзенскай вобласці. Хаця, вельмі б хацелася памыліцца.

Літаратурнае жыццё на Лідчыне не затухае і трэба спадзявацца, што ў 2025 годзе, калі Ліда будзе прымаць Дзень пісьменства, яшчэ больш актывізуецца. Сярод іншага ўжо рыхтуецца да выдання кніжачка паэзіі Юрыя Карэйвы, найталенавітайшага лідскага паэта, які заўчасна пайшоў ад нас.

***Яраслаў Грынкевіч.***

У Германіі Новы год - адно з найлюбімейшых святаў. Немцы святкуюць яго шырока і з размахам: маштабныя гулянні, канцэрты, балі, вечарынкі і застоллі.

Перш, чым мы дазнаемся пра галоўныя традыцыі чароўнага свята ў Германіі, нам давядзецца… пазнаёміцца з Сільвестрам. Менавіта так тут завуць 31 снежня, у гонар Рымскага папы Сільвестра I. Па легендзе гэты святы знішчыў жудаснага змея Левіяфана і выратаваў свет ад злыдня і канца свету.



Сам Новы год у Германіі - дзяржаўнае свята, таму 1 студзеня зачынены крамы і розныя ўстановы.

Для немцаў Новы год - свята шумнае, вясёлае і маштабнае, адзначаюць яны яго з вялікім размахам. Дома жыхары Германіі слухаюць музыку, варожаць, гуляюць у настольныя гульні, а потым абавязкова ідуць шпацыраваць па зіготкіх і прыбраных вуліцах. Маладыя людзі звычайна адзначаюць свята вялікімі кампаніямі ў клубах і барах, людзі старэйшыя - у рэстаранах, у тэатрах, на канцэртах ці на калядных балях.

**ПЛЯЦ БРАДЭНБУРГСКІХ ВАРОТ У БЕРЛІНЕ**

Галоўнае месца масавых народных гуляў - пляц Брадэнбургскіх варот у Берліне. У навагоднюю ноч на вуліцах горада шматлюдна і шумна: людзі бяруць з сабойляскоткі, званкі, ляпаўкі і канфеці. Немцы вераць, што такой гучнай і бурнай весялосцю яны адпужваюць злых духаў і надыходзячы год абавязкова будзе добрым.

**НАВАГОДНІ ФЕЕРВЕРК**

Роўна апоўначы па ўсёй краіне звоняць званы, і пачынаецца святочны феерверк. Паглядзець гэта маляўнічае відовішча збіраюцца тысячы людзей, а навагодняя кананада не змаўкае на працягу некалькіх гадзін.

**СВЯТОЧНАЯ АТМАСФЕРА НА ВУЛІЦАХ**

Вуліцы гарадоў Германіі дзівяць пышнасцю і прыгажосцю ўбору. Паўсюль можна ўбачыць вясёлыя калядныя кірмашы і кірмашы, якія адкрываюцца ў лістападзе і працуюць да самых навагодніх свят. Шпацыруючы па прыбраных, зіготкім ад упрыгожванняў і гірлянд вулачкам, можна паспрабаваць розныя пачастункі, купіць сувеніры, паслухаць музыкаў ці паглядзець выступы вулічных артыстаў.





# ЯК ПРЫНЯТА СВЯТКАВАЦЬ НОВЫ ГОД У ГЕРМАНІІ

### ПАДРЫХТОЎКА ДА НОВАГА ГОДА

Да Новага года немцы пачынаюць рыхтавацца за месяц, часам і раней. Яны загадзя заказваюць столікі ў рэстаранах, купляюць квіткі ў тэатры і на розныя мерапрыемствы. Напярэдадні свята абавязкова наводзяць парадак дома. Чысцяць каміны, сцелюць новую пасцельную бялізну, змяняюць абрусы, фіранкі і дастаюць прыгожы посуд: як і ў многіх краінах, у Германіі прынята ўваходзіць у надыходзячы год з усім новым.

Дзеда Мароза ў Германіі завуць Вайнахтсман. У адной руцэ ён трымае розгі для непаслухмяных дзяцей, а ў другой - мяшок з падарункамі для тых, хто ўвесь год паводзіў сябе добра. У якасці прэзента нямецкія дзеткі звычайна атрымліваюць ласункі, кнігі ці настольныя гульні.



### ЯК УПРЫГОЖВАЮЦЬ ДАМЫ Ў ГЕРМАНІІ

Па традыцыі, ёлку ў хаце ставяць яшчэ перад Калядамі. Прыбіраюць зялёную прыгажуню ўсёй сям'ёй, бо ёлка ў Германіі - святое і святочнае дрэва. Упрыгожваюць яе вельмі старанна, вялікай колькасцю цацак, шароў, гірлянд і нават ласункаў.

Жыхары прыватных дамоў высаджваюць ялінку ў двары і ўсталёўваюць калядныя кампазіцыі з лямпачкамі і гірляндамі, каб нямецкі Дзед Мароз - Вайнахтсман - абавязкова заўважыў і не мінуў.

На вокнах можна ўбачыць навагодніх герояў, сняжынкі, на падваконнікі ў хатах ставяць падсвечнікі-аркі і іншыя прыгожыя кампазіцыі з яловых галінак, цацак і свечак. Па хаце развешваюць вянкі з чырвонымі стужкамі, фігуркі камінараў, канюшыну ці падковы на поспех. Яшчэ адзін атрыбут навагодняга дэкору - расліна пуансетыя з ярка-чырвоным лісцем, якую рамантычна завуць "Калядная зорка". Такі пышны ўбор стварае незвычайную атмасферу казкі і цудоўны святочны настрой.

### НАВАГОДНІЯ ТРАДЫЦЫІ І ЗВЫЧАІ

У навагоднюю ноч у немцаў раней было прынята варажыць на будучыню. Для гэтага воск ці свінец расплаўлялі ў лыжцы, а потым хутка акуналі ў халодную ваду. Па абрысах расплаўленага кавалачка спрабавалі адгадаць, што чакае ў надыходзячым годзе.

У сувязі з высокай небяспекай параў свінцу для арганізма чалавека, яго пры варажбе больш не выкарыстоўваюць.

### НАВАГОДНІЯ ПАДАРУНКІ Ў ГЕРМАНІІ

Жыхары Германіі абменьваюцца падарункамі не ў саму навагоднюю ноч, а тыднем раней. Цэніцца, калі ўпакоўка выраблена сваімі рукамі і да прэзента прыкладваецца паштоўка з напісанымі ад рукі цёплымі пажаданнямі.

На Новы год прынята дарыць штосьці сімвалічнае: статуэткі, фігуркі канюшыны ці падкову, розныя вырабы ручной працы. Часта дораць фігурку парасяці з марцыпану "на поспех", жывыя кветкі ў гаршках, квіткі на розныя мерапрыемствы ці кнігі.

### НАВАГОДНІЯ ПАЧАСТУНКІ

У Германіі ёсць свае традыцыйныя стравы, якія гаспадыні абавязкова падаюць да навагодняга стала. Запечаны карп упрыгожвае стол як знак багацця і поспеху ў надыходзячым годзе, бо луска рыбы так падобная на бліскучыя манеты. Для фінансавага поспеху рыхтуюць і ядуць чачавічную поліўку. Абавязкова ставяць на стол кошык з яблыкамі і арэхамі. Немцы лічаць, што паспытаць зялёны яблык - значыць спазнаць праўду, а раскалоць арэх - справіцца з магчымымі цяжкасцямі.



Таксама падаюць нарэзкі з сыру і вяндліны, фандзю, садавіну. Не абыходзіцца застолле і без традыцыйных нямецкіх страў - тушанай капусты з баварскімі каўбаскамі і штолена - святочнага кексу, пасыпанага цукровай пудрай. Штолен часта выпякаюць за месяц ці два да Новага года і захоўваюць у прахалодным месцы.

Немцы ўсёй душой любяць Новы год і адзначаюць яго з велізарным задавальненнем. Гэты дзень для іх - сапраўднае свята, калі можна ад душы павесяліцца з сябрамі, роднымі і блізкімі і назапасіцца добрымі эмоцыямі на ўвесь наступны год.

*Паводле СМІ.*





**Новае выданне**

# "Паланэз" слонімскіх літаратараў

У лідскім выдавецтве "Пружмень" выйшаў з друку слонімскі літаратурны альманах "Паланэз". Гэта ўжо другі выпуск, а першы з'явіўся ажно пяць гадоў таму.

Слонімшчына ва ўсе стагоддзі вызначалася самымі разнастайнымі гістарычнымі падзеямі. Нездарма яе любілі многія пісьменнікі Беларусі і наведвалі гэты цікавы куток.

А яшчэ Слонімшчына была і застаецца багатай на літаратурныя таленты. Прыкладам можа служыць першы выпуск Слонімскага літаратурнага альманаха "Паланэз", які выйшаў з друку ў 2019 годзе. У ім надрукаваны творы літаратараў Слонімшчыны, якія жылі ў мінулых стагоддзях і якія жывуць сёння ў розных кутках свету. Вядома ж, творы ўсіх адразу надрукаваць немагчыма, але сам альманах "Паланэз" дае ўяўленне пра літаратурныя таленты гэтага рэгіёна.

Другі выпуск "Паланэза" сабраў, падрыхтаваў і напісаў прадмову Сяргей Чыгрын. Чытачоў парадуе новымі паэтычнымі радкамі Мікола Кананові́ч, Зьніч, Ірына Войтка, Таццяна Трафімчык, Святлана Адамовіч, Дар'я Бялькевіч, Алена Руж, Лідзія Шуляк. Чытачы з цікавасцю прачытаюць празаічныя творы Уладзіміра Ягоўдзіка, Міхаіла Шуляка, Сяргея Васільева і Уладзіміра Цвяткова. Прыгадаў у альманаху Сяргей Чыгрын пра таленавітых і вядомых людзей Слонімшчыны, якія жылі ў XX стагоддзі. Гісторык Сяргей Ёрш адшукаў і падзяліўся з чытачамі архіўнымі знаходкамі пра жыццё і творчасць Язэпа Вількоўшчыка і Сяргея Хмары. Настаўніца Святлана Брайчук цікава распавядае пра гісторыю капліцаў Орды на Слонімшчыне і згадвае пра ўладальнікаў маёнтка Жыровічы.

Са спадчыны слонімцаў альманах друкуе артыкул Аляксандра Місцюкевіча "Гісторыя забытых гасцінцаў" і лексіку вёскі Малая Кракотка Слонімскага раёна, якую пры жыцці сабраў Янка Саламевіч.

Некалі слонімскі паэт Анатоль Іверс напісаў:

*Старонка родная мая,*
*Ты зноў вясною расцвітаеш.*
*І салаўіная ў гаях*
*Да сэрца песня далятае…*




Няхай творы літаратараў са слонімскай зямлі далятаюць да сэрцаў тых людзей, якія цікавяцца мастацкім словам і гісторыяй роднага краю.

***Алена КРАЎЦОВА.***

## Старая новая добрая казка для дзяцей і дарослых

Слонімскі драматычны тэатр прадставіў у вялікай зале Палаца культуры г. Ліды спектакль "Снежная каралева". Спектакль пра тое, што кожны чалавек, павінен прайсці шлях Герды, каб пасталеўшы несці адказнасць не толькі за сваё жыццё і лёс, але навучыцца кахаць, спагадаць і дапамагаць. Галоўная гераіня казкі Герда адпраўляецца ў вандроўку па сусветах, якія ствараюць два чараўнікі, добры і злы. Чароўная зімовая гісторыя са шчаслівым канцом і безумоўным трыумфам кахання прыйшлася па душы маленькім гледачам.

***ТК "Культура Лідчыны".***



# Літаратурна-музычныя зазімкі "Зорка мая непагасная"

19 снежня ў Лідскую раённую бібліятэку імя Янкі Купалы былі запрошаны чытачы бібліятэкі і навучэнцы







Лідскага каледжа, дзе для іх прайшлі святочныя літаратурна-музычныя зазімкі "Зорка мая непагасная", прысвечаныя 120-годдзю славутага беларускага паэта-песенніка і музыканта Адама Герасімавіча Русака.

Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі кніжную выставу "Адам Русак. Жыццё ў песні". Экспазіцыя ўключала каля 40 выданняў і ілюстрацый, якія адлюстроўвалі творчую дзейнасць таленавітага беларускага паэта і музыканта, - зборнікі вершаў, творы для дзяцей, ноты з музычнымі творамі на яго вершы. Паэзія Адама Русака адрозніваецца напеўнасцю, задушэўным лірызмам, мяккім народным гумарам, лёгка кладзецца на музыку. Сёння ў народзе жыве нямала песень, створаных вядомымі кампазітарамі на вершы Адама Герасімавіча. Да мерапрыемства была падрыхтавана мультымедыйная прэзентацыя, якая вылучыла асноўныя біяграфічныя звесткі аб кампазітары, яго жыццёвы і творчы шлях, цікавую гісторыю песні "Бывайце здаровы, жывіце багата". Гучалі творы на вершы Адама Русака аўтарства Ігара Лучанка, Ісака Любана, Юрыя Семянякі: "Мой край", "Дзе ты, зорка мая?", "Не шукай ты мяне", "Песня Марыны". Хораша гучала на беларускай мове песня Уладзіміра Алоўнікава на словы Адама Русака з кінафільма "Вясеннія навальніцы".

***Наш кар.***

# Навагодняя акцыя "Нашы дзеці"

У рамках інклюзіўнага праекта "Лідскі замак для ўсіх і кожнага" была арганізавана дабрачынная навагодняя акцыя "Нашы дзеці" для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. Прынялі ўдзел у праекце і акцыі таксама калегі з Дома Валянціна Таўлая.

Для наведвальнікаў у замкавым двары была арганізавана тэатралізаваная экскурсія "Легенды з Лідскай зямелькі ад вешчуна Гедыміна Ліздзейкі", на якой Вандроўнік падзяліўся паданнямі, легендамі і гістарычнымі аповедамі, якімі насычаны старажытны Лідскі замак.







Для дзетак, якія перамяшчаюцца ў інвалідным вазку, быў працяг у Доме Валянціна Таўлая. Для іх працавала тэматычная пляцоўка ад навуковага супрацоўніка Драздовай С. С., на якой дзеткі разам з бацькамі дабавілі фарбаў на эскіз Лідскага замка, даведаліся праз гульню МЭМО пра цікавыя артэфакты замка Гедыміна, а таксама пачулі як гучыць старажытны музычны інструмент варган.







Разам з тым Лідскі замак наведалі Дзед Мароз і Снягурка, якія ўручылі дзеткам салодкія пачастункі.

***Наш кар.***




*Гіпаліт Корвін-Мілеўскі*

# Успаміны пра семдзесят гадоў (1855-1925)*

## *Кніга другая. Грамадскае і палітычнае жыццё (Скарочаны пераклад)*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Гэтая "капітуляцыя 11 лістапада 1908 г." з боку пані, якая была непараўнальна вышэй мяне ў генеалагічным і свецкім сэнсах, мяне трошкі здзівіла, але я прыняў прапанову.

Хаця гэтая пані ўжо згадвалася, але яна заслугоўвае асобнага нарысу як адна з вяршыняў тагачаснага польскага свету.

Клемянціна з Патоцкіх, ардынатарава Янава Тышкевічава (1856-1920), малодшая дачка былога аўстрыйскага прэм'ера, а потым намесніка Галіцыі Альфрэда Патоцкага і адзінай дачкі княгіні Сангушкі, сястра знакамітых Рамана на Ланцуце і Юзафа на Антаніях Патоцкіх і таксама пані Юліі Браніцкай (жонкі Уладзіслава Браніцкага). Клемянціну з Патоцкіх яшчэ да яе шлюбу ведалі ў Еўропе з-за становішча ў свеце і па-сапраўднаму скульптурнай прыгажосці (хоць і без жаночага шарму). Ведалі, дзякуючы карціне знакамітага венскага жывапісца Макарта "Уезд Карла V у Антверпен", якая зрабіла фурор на Парыжскай выставе - мастак змясціў яе ў касцюме Евы на пярэднім плане. Да таго ж, выключна заможная як сама, гэтак і па мужу, ардынатава Клемянціна належала да шэрагу тых, тады распаўсюджаных у Еўропе вялікасвецкіх дам, якія з калыскі выраслі ў перакананні, што ўсе правілы і прынцыпы, а нават і свецкая ветлівасць, былі патрэбны арыстакратам другога гатунку, але не ім. Неадукаваная але непараўнальна дзёрзкая, яна была т. з. дзіцём прыроды. Адзінай сілай, якая ёй кіравала, былі інстынкты. Як блізкі сябар дзяцінства яе мужа я быў першым госцем у Біржах адразу пасля іхняга вяселля і адразу стаў жаданым госцем гэтага дома. Але яе адварочвала ад мяне тое, што яна адчувала ўва мне цэнзара, а прыцягвала яе мая шчырасць, якую я даводзіў да дзёрзкасці.

Натуральна, маючы мужа-сібарыта, якому ўсё было "да зоркі", ужо праз некалькі гадоў яна задавала тон у Вільні, і яе гасцёўня стала больш вясёлым, чым узорным асяроддзем. Пакуль я быў кавалерам, мне было ўсяроўна. Але калі я заручыўся з зусім нявопытнай дзяўчынай, у мяне з'явілася жаданне засцерагчы свой дом ад небяспечнага ўплыву і прыкладу свецкай львіцы. Але да шчыльных адносін прымушала тое, што адна з гэтых паняў была швагеркай, а другая блізкай сваячкай с. п. Уладзіслава Браніцкага. На шчасце, "львіца" сама выратавала мяне ад праблем.

Калі паміж заручынамі і вяселлем я паехаў у Парыж, каб выбраць шлюбныя падарункі і мэблю, дык адразу зайшоў да знаўцы гэтай справы с. п. Яна Тышкевіча. Спаткаў яго на сходах, ён збіраўся на скачкі, у якіх прымаў удзел яго конь. Але схапіў мяне за руку і амаль што гвалтам пацягнуў да сваёй жонкі, бо быў упэўнены, што яна будзе рада мяне бачыць. Пасля сыходу мужа і добрага сняданку, які яна разбавіла сваімі жартамі, цэнзар стаў непажаданы. Не задумваючыся, яна схавалася і загадала перадаць мне, што "хварэе". У перадпакоі ляжалі з паўтузіна цыліндраў і паліто, за дзвярыма можна было пачуць вясёлыя галасы і смех некалькіх гасцей. Я пайшоў ад яе рады, што старыя адносіны цалкам перакрэслены. На другі дзень атрымаў запрашэнне на сняданак і суха адказаў на візітнай карце: "Дзякуй і прабачце".

[…]

Але дамова з ёй не прынесла мне нічога добрага. Я думаў, што калі пацверджу пані ганаровай старшыні свае абяцанні часоў "Кур'ера", дык на гэтым усё скончыцца. А пані Клемянціна разумела справу зусім па-іншаму, яна не сумнявалася ў тым, што я не адмоўлюся ад ранейшага абяцання і не паеду да яе, каб толькі яго пацвердзіць. Даць грошы на тэатр - гэта адно, і да гэтага яна была падрыхтаваная, а пабудаваць тэатр з усёй арганізацыйнай працай, апекай, кантролем і г. д. - гэта іншае, і менавіта гэтую ролю яна мне ласкава даручыла. Як "дзіця прыроды" і жанчына, яна ў той ступені мела нада мной перавагу ў хітрасці, якую маюць экватарыяльныя негры ці эскімосы над прыехаўшымі да іх навукоўцамі, ці звычайныя хатнія гаспадыні над мужамі-прафесарамі. Усе яны не аналізуюць людзей, не параўноўваюць іх паміж сабой, не займаюцца інтэлектуальнымі гульнямі, а пазнаюць характары людзей "па паху". Мая спакусіцельніца адразу пачала з нядаўніх кракаўскіх расказаў пра Антэя, старога каня і хамут. Сказала пра святую службу

* Пераклад Леаніда Лаўрэша паводле: *Korwin-Milewski Hipolit. Siedemdziesiat lat wspomnien (1855-1925). Poznan, 1930.*



дзеля народа і яго бацькоў Падэрэўскага і Дмоўскага і г.д., расказвала пра сваю вялікую ахвяру і ў рэшце-рэшт перамагла мяне.

Назаўтра ў пані Клемянціны сабралася каля 20 чалавек, на якіх можна было разлічваць. Дзельнага Юзафа Мантвіла сярод нас не было, да таго часу ён раптоўна памёр.

Калі было вырашана сумеснымі намаганнямі пабудаваць тэатр, пані Клемянціна заявіла, што ўнясе 10000 рублёў, яе брат Юзаф Патоцкі і швагер Уладзіслаў Браніцкі яшчэ 2000, разам 12000. Мае 20000. Неспадзявана, чалавек высокай рэпутацыі, стары сябар майго бацькі і ўладальнік друкарні Фелікс Завадскі разам з мала каму вядомым панам Рудзевічам, са сваіх сціплых грошай ахвяравалі 10000 рублёў. Некалькі іншых асоб абяцалі не менш за 1000. Такім чынам ад пачатку было каля 50 000. Па прыкладзе новапабудаванага тэатра ў Калішы я ведаў, што кошт не надта прэтэнцыёзнага будынка будзе больш за 150000 рублёў. Покуль добра, але гаворка ішла пра арганізацыйна-прававую форму таварыства.

Першай ідэяй было заснаваць звычайнае акцыянернае таварыства з капіталам у 150000 рублёў і прывабіць на свой бок патрыятычных віленскіх месцічаў. Дзякуючы сваёй антыбанкаўскай кампаніі я добра ведаў прававыя ўмовы і ўнутраныя парадкі такіх таварystваў і таму рашуча выказаўся супраць.

[…]

Мае меркаванні былі прыняты, і адвакат Малінскі (?) узяў на сябе зацвердзіць у сталіцы прапанаваны статут. На пачатак вясны была прызначана новыя, вызначальная сустрэча. Пані Клемянціна паехала ў Парыж, неўзабаве туды паехаў і я.

[…]

Пан Малінскі прадставіў нам нібы новы статут, у якім не былі ўлічаны мае заўвагі.

[…]

Я казаў, што не буду ўступаць у такое таварыства і не дам свае грошы. Але замест таго, каб вярнуць сабе свабоду, я пачаў шукаць спосабы прадухіліць небяспекі, якія меліся ў статуце, і ўсё ж пабудаваць новы тэатр. Пані Клемянціна, у сваім стылі, паклала свае 12000 на мой рахунак у банк і паляцела за мяжу. Я пагаварыў з зычлівым губернатарам Любімавым і вырашыў, што няма іншага спосабу засцерагчыся ад магчымым праблем, як толькі стварыць прыватнае таварыства з абмежаванай адказнасцю і па парадзе губернатара паехаў у Пецярбург, дзе не было недахопу ў юрыстах якія спецыялізуюцца на розных формах таварystваў.

[…]

Улетку 1912 г. у Вільні адбылася так званая "вайна кухарак", якая на нейкі час прывабіла грамадскую ўвагу. Кс.-біскуп Роп у сваім выгнанні не супакоіўся і меў уплыў на адміністратара дыяцэзіі кс. Міхалкевіча[24], які магчыма занадта падпарадкоўваўся свайму іерархічнаму шэфу ў летувіскіх і часткова беларускіх справах. Скарыстаўшы гэта, летувіскія дзеячы ў Вільні на чале з ваяўнічым адвакатам Вілешысам (раней ім ужо цалкам прадалі касцёл св. Мікалая), пачалі патрабаваць штодзённыя набажэнствы на летувіскай мове ва ўсіх касцёлах горада, асабліва ў былым універсітэцкім касцёле св. Яна, які ўважаўся своеасаблівай святыняй польскай ідэі. Пані Вілейшава арганізавала батальён кухарак ці прыватных служанак, з якіх выключна і складалася летувіская калонія ў Вільні. Падчас спявання ў касцёлах песняў на польскай мове, яны раўлі па-летувіску каб заглушыць спевы. Аднак колькасць служанак, якія лічылі сабе полькамі, была настолькі большай за летувіскі кантынгент, што барацьба ў касцёлах аказалася надта няроўнай. У пані Вілейшавай бракавала кантынгенту. І тады яны прыслухалася да мудрай стратэгічнай канцэпцыі аб канцэнтрацыі сіл. Паколькі ў кожным касцёле меліся некалькі ранішніх службаў, увесь летувіскі батальён накрычаўшыся ў адным касцёле, рыссю рушыў у другі, потым у трэці і г. д. Так званая польская інтэлігенцыя мела дастаткова такту, каб не прымаць удзелу ў гэтай вайне кухарак. Аднак кухаркі, сярод якіх вылучалася і мая тоўстая Анеля з жалезнымі лёгкімі і высокім голасам, самі сабе далі рады - арганізавалі контрбатальён і дзякуючы паблажлівасці сваіх гаспадынь, якія былі вымушаны пасціцца да 10-й раніцы, рашуча ўзялі верх і прымусілі летувісак маўчаць. Адначасова, пэўная агітацыя адчувалася і ў вясковых парафіях, але яна не мела поспеху. У Беняконскай парафіі сяляне, хоць і карысталіся ў хаце летувіскай гаворкай, звязалі свайго летувісманскага пробашча, паклалі ў воз, вывезлі на мяжу парафіі і выкінулі ў роў. Рэха гэтых баёў дайшло ў Рым і абурыла шаноўнага мансеньёра Скірмунта. У сваю чаргу Аляксандр Тышкевіч усё больш адыходзіў ад свайго першапачатковага летувісаманства і не мог змірыцца з тым, што на пробашча польскага касцёла св. Станіслава ў Рыме рымская курыя, па рэкамендацыі рускай амбасады, прызначыла кс. Прапалінаса. У той час ў Рыме, як і паўсюдна, Польшча лічылася простай прыбудоўкай у расійскім гмаху. Гэта быў той самы ксёндз, які адыграў вельмі падазроную ролю ў справе з падробкай тастаманта князя Багдана Агінскага.

[24] Эдвард фон Роп (1851-1939) - рэлігійны і грамадска-палітычны дзеяч Літвы, Беларусі і Польшчы. У кастрычніку 1907 г. загадам міністра ўнутраных спраў адхілены ад кіравання дыяцэзіяй па абвінавачанні ў антыдзяржаўнай дзейнасці і патуранні рэвалюцыйнаму руху. Каля 10 гадоў жыў у маёнтку Нішча Віцебскай губерні пад наглядам паліцыі. Абавязкі адміністратара Віленскай дыяцэзіі пачаў выконваць менскі дэкан Казімір Міхалкевіч.

Калі ён пакідаў Коўню, афіцыйны орган мясцовых праваслаўных брацтваў "Літоўская Русь", паведаміў, што *"учора мы праводзілі нашага супрацоўніка ксяндза Праполіса"*.

[…]

Закладка кутняга каменя тэатра адбылася 17/30 красавіка 1912 г.

[…]

Адкрыццё тэатра адбылося 12/15 кастрычніка 1913 г.

# Кніга трэцяя.

# Сусветная вайна.

### Раздзел I.

### Ліпень 1914. Эмс. Берлін. Вільня. Лаздуны. Праклямацыя в. кн. Мікалая. Справа Рэнекампфа. Таненберг.

Ліпень 1914 г. стаў той вяршыняй майго жыцця, з якой лягчэй зваліцца, чым на ёй усядзець. Мне споўнілася 66 гадоў, але я яшчэ не адчуваў сябе старым. Дажыў да той хвіліны, калі чалавек можа з алімпійскім спакоем глядзець на прыгожую палову чалавецтва, якую кожны мужчына можа абвінаваціць, што ў абмен на імгненні задавальнення, менавіта з-за іх ён зрабіў амаль што ўсе свае памылкі, меў згрызоты, расчараванні, атрымліваў насмешкі і нават подласць, якія "ўпрыгожваюць" яго мінулае. Каб задаволіць жаданне павагі, якое характэрнае для гэтага ўзросту, і надзеі, што non omnis noriar (лац. "усё не памрэ". - *Л. Л.*), я вывеў сваю гаспадарку на высокі ўзровень культуры, паспяхова развіваў Віленскае сельскагаспадарчае таварыства, бачыў далейшы росквіт "Кур'ера Літоўскага", які адбыўся, дзякуючы дадзенаму мной імпульсу, меў пэўную вядомасць яе прамоўца і пісьменнік, і нарэшце мазольна закончыў будаўніцтва тэатра ў Вільні.

Гледзячы ў будучыню, бачыў сваю старасць падзеленай на дзве роўныя часткі, адна ў краі павінна была абапірацца на даходы ад маёнтка, другая на Сене ці Рыўеры, забяспечаная даходамі ад вялікага капіталу.

Між тым, дзякуючы вар'яцтву правадыроў нямецкай нацыі і самога гэтага народа, ад маіх мар нічога не засталося, і маё жыццё набыло той жа самы шэры колер, які мела ў часы Мураўёва і Каўфмана, але пры гэтым - мінус маладосць і надзея. Бо супраць тых лютых знішчальнікаў абшарніцтва майму бацьку і мне ўдавалася паспяхова змагацца, але супраць іх годных спадкаемцаў у Варшаве змагацца было немагчыма, бо яны былі свае і лепш ведалі слабыя бакі сваіх ахвяр.

*Далей - успаміны.*

[…]

Я даўно прадбачыў няўмольнасць і непазбежнасць канфлікту, прынамсі паміж Расіяй і Францыяй з аднаго боку і нямецка-аўстрыйскім саюзам з другога. Пра гэта сведчаць дзве мае вельмі гучныя прамовы ў Дзяржаўнай думе Расіі, якія каментаваліся ў нямецкай прэсе і ў штомесячніку "Le Correspondant" ад 10 верасня 1913 г.

Я не сумняваўся, што такі, нават абмежаваны канфлікт выкліча жудасны фінансавы крызіс і планаваў застрахаваць сваю старасць ад яго наступстваў. Акрамя майго нерухомага фонду ў дзяржаўным банку Берліна і часткова ў філіі дзяржаўнага расійскага банка ў Вільні, я меў вялікі капітал, які складаўся з нямецкіх, расійскіх і аўстра-венгерскіх дзяржаўных папер. Таксама зімой 1914 г. у Парыжы пры дапамозе вельмі дасведчанага ў банкаўскай справе пана Карла Халперта (мужа Браніцкай, сёння чыннага супрацоўніка нашай амбасады ў Парыжы), я прыдумаў наступны праект: мабілізаваць ўсю гэтую масу грошай, праз Халперта купіць у Лондане 4,5-працэнтныя аблігацыі жалезных дарог ЗША і такім чынам уладкаваць свае грошы "за плячыма пана Бога". З гэтым праектам 14 красавіка вярнуўся ў Вільню, але з-за майго звычайнага "нешанцавання", якое пераследуе мяне ад нараджэння, пачалі назапашвацца перашкоды.

[…]

і толькі 14 ліпеня 1914 г. я выехаў з Вільні на курорт у Эмс.

[…]

Тэрмін майго адпачынку набліжаўся да паловы, калі раптам стрэліў памятны аўстрыйскі ультыматум Сербіі. І ў мяне, і ў маіх нешматлікіх часовых сяброў склалася ўражанне, што ён пах порахам, бо адрэдагаваны каб абавязкова выклікаць адмову. Мой сусед па абедзенным салоне, палкоўнік бельгійскай арміі падтрымаў гэтую думку і адразу спалохаўся. Аднак на працягу некалькіх дзён абмен тэлеграмамі паміж вялікімі дзяржавамі, сціплая рэакцыя сербскага ўрада і відавочныя шчырыя намаганні Вільгельма II, нібыта накіраваныя на лакалізацыю канфлікту, нараджалі надзею на мірнае рашэнне і пра гэтую надзею казалі ўсе без выключэння немцы.

Гэта ўвяло ў зман вялікую колькасць рускіх падданых і хутка падставіла іх пад жорсткія напады "добразычлівага" нямецкага насельніцтва. Я вельмі не хацеў перапыняць лячэнне і таксама патрапіў бы ў тую пастку, калі б мяне не выратавала асаблівая здольнасць усё дасканала пралічваць. У чацвер раніцай 30 ліпеня, ідучы на інгаляцыю, я набыў сярэдавы парыжскі выпуск амерыканскай "Нью-Ёрк Геральд". З раззяўленай дзюбай, палыкаючы пыл мінеральнай вады, я чытаў камерцыйны

раздзел, у якім заўважыў тэлеграму з Нью-Ёрка наступнага зместу: "Учора параход "Вільгельм дэр Гроссэ" з грузам золата коштам у 14 мільёнаў долараў выйшаў у Гамбург з нашага порта, а сёння з тым самым грузам коштам у 10 мільёнаў выйшаў карабель "Кронпрынцэса Цацылія". Бліскавічна ўзнікала разуменне, што завоз такой колькасці золата ў час, калі нямецкая валюта не мае ніякіх ваганняў, не можа быць нічым іншым, як толькі падрыхтоўкай да вайны. А калі падлічыць, колькі трэба часу, каб сабраць такую колькасць золата вагой каля 4000 кг, усё ўзважыць на ювелірных вагах, упакаваць і пагрузіць на караблі, дык становіцца зразумелым, як Божы дзень, што ўсё гэта пачалося за некалькі дзён да аўстрыйскага ўльтыматума Сербіі. Таму Вільгельм II і нямецкі ўрад не толькі не былі занепакоены ўльтыматумам, як пра гэта пісалі газеты, але, напэўна, і самі натхнялі гэты крок.

Значыць, пане Гіпаліце, ногі ў рукі і хутка дахаты. Не вяртаючыся ў пакой, пабег на вакзал узяць білеты на вячэрні экспрэс да Берліна, расплаціўся за курорт і загадаў служцы неадкладна пакаваць мае рэчы. Падчас сняданку мой бельгійскі палкоўнік сказаў, што праз гадзіну ён едзе ў свой замак на самай галандскай мяжы, бо заўтра можа выбухнуць вайна і яго зноў прызавуць на чынную вайсковую службу.

- Што вас хвалюе, Бельгія ж нейтральнай дзяржава?

- Гэта на паперы, але немцы згвалцяць наш нейтралітэт і праз наша бруха ўвойдуць у Францыю. Так і будзе, і малая Бельгія не можа супраціўляцца. Але мы не былі б дзяржавай і народам, каб безабаронна пацярпелі такую знявагу. Кароль Альберт адразу б страціў сваю карону. Але ён рыцар і стане на чале народа. І калі ад каралеўства застанецца толькі шматок недзе каля Дзюнкерка, ён там і загіне.

Глыбока ўсхваляваны я пацiснуў яго руку і з болем успомніў нашу вялізную Рэч Паспалітую XVIII ст., па якой, як па пустцы, 70 гадоў бадзяліся розныя чужынскія войскі.

Пры чорнай каве да майго століка падселі нейкі нікчэмны немец, барон з Рура, з якім я ўжо некалькі разоў размаўляў, і напалову немец, а напалову англічанін з Гамбурга. Барон, чалавек гаваркі, але разам з тым разважлівы, сам пачаў размову пра надыходзячую вайну. Ён адразу заўважыў, што Польшча на гэтым можа толькі зарабіць і падрабязна растлумачыў, чаму германа-аўстрыйскі саюз атрымае ўпэўненую і маланкавую перамогу, сказаў таксама, што адной Аўстрыі хапіла б каб стрымаць шматлікую рускую армію, якая мае малую прафесійную каштоўнасць, а французскае войска, нягледзячы на храбрасць і добрае камандаванне, часткова стрымліваецца італьянцамі і не здольна супрацьстаяць удвая большай нямецкай арміі. На маю заўвагу, што ён дарэмна разлічвае на актыўнае ўмяшанне італьянцаў і не ўлічвае Англію, немец без вагання адказаў: "Магчыма, але яны не маюць паняцця аб нашым узбраенні". Гэта сляпая вера ў іх знакамітую тэхніку, якая доўжылася да самага канца вайны, фактычна і знішчыла гэтую нахабную нацыю. Мой барон закончыў цікавай і, як аказалася, трапнай заўвагай. Ён уздыхнуў і сказаў: "Нягледзячы на нашу пэўную перамогу, я думаю, што наш кайзер зробіць вялікую памылку, калі пачне вайну. Што мы на гэтым заробім? Некалькі мільярдаў кампенсацыі, кавалачак Латарынгіі і добрую палову іхніх заморскіх калоній. Але ўвесь свет, які зараз зайздросціць нашай славе і нашай магутнасці, будзе ненавідзець нас да глыбіні душы. І на цэлае пакаленне, а можа больш, мы страцім нашу бязмежную рускую калонію, нашу бязмерна багатую англійскую калонію, нашы прыгожыя і прыемныя французскія і італьянскія калоніі - нашы рынкі збыту. Дрэнны бізнес".

Цікава, што ён сёння думае пра гэты бізнес?

Пасля сняданку, хоць ні мабілізацыя, ні нават папярэдняе абвяшчэнне "ваеннай небяспекі" не былі абвешчаныя, некалькі сотняў маладых немцаў, усе яшчэ ў цывільнай вопратцы, прайшлі перад маімі вокнамі з крыкамі: "Deutschland uber alles" (ням. "Германія вышэй за ўсе". - *Л. Л.*).

З гэтага моманту, гадзіна за гадзінай, паўсюдна ўзмацняўся пах пораху. Калі ў 23-00 я сеў у вагон экспрэса першага класа, дык знайшоў у ім чатырох немцаў, якія разваліліся на канапах і пачалі бурчэць на мяне. Калі ж праз некалькі хвілін кантралёр папрасіў білеты, аказалася, што білет першага класа маю толькі я, а ў іх быў 2 ці нават 3 клас. Я шматзначна паглядзеў на кантралёра, які прамармытаў: "Kriegszeit" (ням. "Ваенны час". - *Л. Л.*).

А 8-й раніцы я прыехаў у Берлін і паслаў слугу ў гатэль "Кантыненталь", каб ён зняў мне пакой да вечара, а сам адразу пайшоў у бюро спальных вагонаў. Купіў білет і адразу рушыў у "Дойчэ Банк", які яшчэ не адчыніўся. Меў там больш за 20 000 марак на разліковым рахунку і зняў ўсе, акрамя 1 000 (каб вяліся) у французскім золаце і рускіх банкнотах. Грошы выдалі, нават не звярнуўшы на мяне ніякай ўвагі, але доктар Гласко ў Вільні расказваў, што калі ў той жа час ён хацеў зняць свае сціплыя 2 000 марак, яму адмовілі са словамі: "Нашым ворагам грошы не выдаем", хоць мабілізацыя афіцыйна была аб'яўлена толькі апоўначы!

Калі каля 13-00 я праходзіў па Ундэр дэр Ліндэн, з боку замка заўважыў вялізны натоўп, які цягнуўся ажно да Фрыдрыхштрасэ. Не ведаючы, што адбываецца, спытаў у нейкага немца. Ён адказаў: "Наш імператар размаўляе са сваім народам". Гэта была тая самая слаўная прамова з балкона, у якой Вільгельм II аб'явіў пачатак вайны і шчыра размахваючы тэлеграмамі, абвінаваціў свайго калегу - манарха і кузына Мікалая II у тым, што той "яго подла ашукаў". Вечарам, каля 24-00, пры аб'яўленні мабілізацыі, я сеў, а дакладней, ускочыў у цягнік на Кёнігсберг і Эйдкунен. Насільшчык укінуў ручны багаж майму служку праз акно, ён паспеў яго раскласці, але не паспеў выйсці ў свой 3 клас, калі дзверы былі гвалтоўна зачынены і заблакаваны натоўпам пасажыраў, якім давялося ехаць ўсю ноч стоячы. Слуга мусіў ехаць у маім купэ. У Дзіршаў, каля 6-й раніцы, праз шчыліну ў фіранках, якія нам

загадалі апусціць, я заўважыў, што ўвесь луг, да гарызонту быў пакрыты намётамі з жаўнерамі - і гэта ўжо праз 6 гадзін пасля аб'яўлення мабілізацыі! Гэтак бедны і нявінны "бош" быў прымушаны хітрым рускім і яшчэ больш хітрэйшым французам да вайны. Каля 12-й гадзіны мы прыехалі ў Эйдкунен. Станцыя і ўсе дамы вакол яе былі зусім пустыя. Нас трымалі 2 гадзіны, мы былі галоднымі, але нам не дазвалялі выйсці ў пусты вакзальны буфет. Неяк усё ж нас прывезлі ў Вержбалова, не менш пустую станцыю чым Эйдкунен. Вядома, што ў той момант і немцы, і рускія хаваліся адзін ад аднаго. У Вержбалове я даведаўся, што мой багаж прапаў. У адказ на маю скаргу, рускі чыноўнік, які разам з немцам кантраляваў спіс, сказаў: "Не турбуйцеся. З 715 багажных квіткоў не хапае 60 багажоў і ўсе як адзін - пасажыраў 1 класа ці спальных вагонаў. Немцы ўжо прасабечылі сябе нашы рэчы. Насамрэч, пасля пошукаў, зробленых ужо пасля перамір'я ў 1919 г., высветлілася, што мой багаж разам з іншым, быў выгружаны яшчэ ў Караляўцы і нібы прададзены там з аўкцыёну, але насамрэч разрабаваны і нямецкая чыгунка праз польскае консульства прапанавала мне 400 марак, якія тады раўняліся 21 франку.

Але мне ўсяроўна пашанцавала, бо наступны цягнік з Берліна быў спынены за 14 км ад мяжы, і вялікі князь Канстанцін Канстанцінавіч і вядомы дэпутат Дзяржаўнай Думы Маклакаў былі прымушаны ісці да Вержбалова пяшком з рэчамі ў руках - іх багаж таксама знік.

На станцыі Вержбалова не было ні лакаматываў ні вагонаў, але праз нейкі час, якраз калі ў Пецярбургу граф Пурталес аб'яўляў вайну[25], у ноч з суботы на нядзелю, прыйшоў цягнік з Коўні, і мы паехалі. У Вільні былі ў 10-й раніцы. Заехаў у сваю кватэру каля вядомага гатэля "Св. Георг", там прыбраўся і пайшоў на сняданак і адначасова на выведку у рэстарацыю гэтага гатэля. Рэстарацыя была перапоўненая знаёмымі, якія мяне атачылі і засыпалі пытаннямі, усе казалі, што сёння пачалася новая старонка гісторыі. Разам з іншымі да мяне цырымонна наблізіўся біржанскі ардынат, граф Андрэй Тышкевіч, сын с. п. Яна і вядомай пані Клемянціны, пазнейшы "амбасадар" Ковенскай Летувы ў Лондане - і як у лепшага сябра яго нябожчыка-бацькі і дасведчанага чалавека ўрачыста папрасіў мяне растлумачыць, "якім у гэту гістарычную хвіліну ёсць абавязак добрага паляка?". Я адказаў: "Чакаць, узірацца і галоўнае, старанна берагчы польскую зямлю і польскую кроў, гэта значыць сваю маёмасць і сваю скуру". Я сказаў гэта, бо ўспомніў, як падчас японскай вайны Альфрэд Тышкевіч, які, канешне, не меў розум Метэрніха, але быў адважным чалавекам, добраахвотна запісаўся ў казакі пры тым, што быў адзіным дзіцём і не падлягаў ваеннай службе. Ён цэлы год рызыкаваў на рускай службе ў справе, ад якой мы нічога не маглі атрымаць.

Коратка апісаць стан пануючых думак сярод абшарніцтва краю можна было наступным чынам: цьмянае пачуццё, што з канфлікту, які пачаўся, павінна выйсці нешта спрыяльнае для польскай справы, але без ніякага ўяўлення, як гэта можа стацца і што мы павінны рабіць. Дзякуючы традыцыйнай сімпатыі да Францыі і антыпатыі да швабаў, уласцівай усім славянам, сімпатыя да справы саюзнікаў значна пераважала антыпатыю да маскоўцаў як такіх, гэта антыпатыя значна аслабла пасля рэформаў 1905-1906 гг. Аднак надзея на поспех была даволі хісткай. Большасць нашай інтэлігенцыі лепей ведала Германію чым Францыю і тым больш Англію і была прасякнутая, насамрэч, бязмежным захапленнем нямецкай арганізаванасцю, тэхнікай і г. д. На першым этапе яшчэ не адчувалася агульнага абурэння супраць немцаў і аўстрыйцаў за тое, што яны нарабілі на гэтай вайне, абурэння, якое павінна хутка стаць для большасці хрысціянскіх народаў да самых апошніх часоў (пісаў да Лакарна ), агульным сімвалам веры.

У тыя жнівеньскія дні мяне галоўным чынам цікавілі настроі вёскі, бо ўжо хадзілі чуткі пра спарадычныя напады рэзервістаў на шляхецкія сядзібы, галоўным чынам на тыя, дзе меліся вінакурні і запасы спірту . Вялікі розгалас атрымаў напад, які пачаўся з рабавання складу спірту і закончыўся рабаваннем усяго маёнтка пана Ваньковіча ў Ігуменскім павеце Менскай губерні. Таму яшчэ з Вержбалова я тэлеграфаваў адміністратару майго маёнтка, дрэннаму аграрніку, але спрытнюгу першага гатунку, якога наступнай вясной планаваў звольніць. У часы немцаў, бальшавікоў і палякаў ён даказаў, што належыць да таго класу давераных асоб, якія гатовыя як Тарцюф Мальера заўсёды заявіць дзедзічу: "Гаспадарка мая, а табе трэба знікнуць".

З-за цяжкасці зносін на пачатку вайны, ён прыбыў да мяне толькі праз некалькі дзён і адразу пачаў заклінаць мяне ранамі Хрыстовымі, каб дзеля выратавання ўласнага жыцця, я, крый Божа, не з'явіўся ў сваіх Лаздунах. "Небяспечныя норавы, настроі, узрушанасць розумаў, неспакой" і г. д. але без ніякіх фактаў. Я зразумеў, што адбываецца, і з годнасцю рымскага сенатара перад нападам галаў сказаў яму: "Тое, што вы кажаце, вельмі сур'ёзна, але чалавека абавязку, якім я ёсць, гэта пераконвае ў тым, што маё месца зараз менавіта ў Лаздунах, дзе мая прысутнасць можа мець выцвераджальны эфект на мясцовае насельніцтва. Таму, калі ласка, заўтра вяртайцеся ў Лаздуны, а паслязаўтра прышліце мне коней у Ліду, бо лінія Ліда-Маладзечна, як вы кажыце, забітая вайсковымі эшалонамі. З Ліды я, як-небудзь, дабяруся да Лаздун.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[25] 1 жніўня (19 ліпеня) 1914 г. граф Фрыдрых фон Пурталес уручыў рускаму міністру замежных спраў С. Д. Сазонаву ноту аб аб'яўленні Германіяй вайны Расіі. Па ўспамінах, зрабіўшы гэта, Пурталес "адышоў да акна і заплакаў" - *Л. Л.*





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Амерыканоіды - не абраза і не людзі з космасу: Данько, Жаваранкаў; антрапалагічная мазаіка (ч. 2)*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-51 (105-155) за 2024 г.)*

Частка 1 нашай "Антрапалагічнай мазаікі" змешчана ў № 6 (110) "Нашага слова.pdf" (2024): *https://www.nslowa.by/wp-content/uploads/2018/08/tyu6.pdf#page=18.*

**АНТРАПАЛАГІЧНАЯ МАЗАІКА (2)**

Мэтай агляду антрапалагічных матываў у сабраным намі матэрыяле па беларуска-індзейскіх сувязях - найперш нашай перапіскі з суправаджэннем закранутых у ёй рэалій запісамі з "Беларуска-індзейскай бібліяграфіі" - з'яўляецца арганізацыя матэрыялу і стымуляванне цікавасці да антрапалагічнай амерыканістыкі як кірунку даследаванняў у Беларусі, які мусіць развівацца. Цытуецца шэраг ранніх лістоў, улічваецца вопыт абменаў па электроннай пошце, у якіх прысутнічаюць антрапалагічныя тэмы. Пры пошуку гэтых тэм у перапісцы сярод найбольш важных - словы з асновамі *антрапалогія* (але лацінскія версіі *anthropology, antropologia,* як тэрміны з традыцыйна больш шырокім ахопам "чалавеказнаўства", мала дапамагаюць у ім), раса, скура, метыс. Выбарка тэкстаў і пералік адрасатаў і карэспандэнтаў дапамагае ўсвядоміць маштаб: колькасць нашых зваротаў да фізічных антраполагаў надзвычай сціплая, запытаў і адказаў па антрапалагічнай праблематыцы мала, але існаванне некалькіх выдатных прадстаўнікоў навуковай дысцыпліны ў Беларусі, Польшчы і Расіі дазволіла сабраць значны аб'ём інфармацыі ў гісторыю індзеяністыкі. Найважнейшыя антраполагі, звязаныя з Беларуссю і згаданыя ў перапісцы: Л. Цягака, І. Салівон, А. Мікуліч, Т. Худзінскі, М. Цвірка-Гадыцкі, К. Сталыгва, Я. Рагінскі, М. Левін, І. Сілініч. Антрапалагічныя арганізацыі сярод нашых адрасатаў: група (аддзел) антрапалогіі ў сістэме Акадэміі навук Беларусі, Навукова-даследчы інстытут і музей антрапалогіі (Масква), Польскае антрапалагічнае таварыства, Антрапалагічны музей Мантанэ (Гавана), Кунсткамера, Амерыканская антрапалагічная асацыяцыя. Актуальныя, найбольшыя практычныя патрэбы ў антрапалагічнай інфармацыі вынікаюць са збору звестак для найважнейшых праектаў, якія звязаныя з вывучэннем беларуска-індзейскіх сувязей, асабліва непасрэдных кантактаў беларусаў з індзейцамі, калі нярэдка патрабуецца пацвярджэнне індзейскіх біялагічных каранёў.

*

Прыкладамі "антрапалагічных", амаль заўсёды "ў шырокім сэнсе", арганізацый у іншых краінах, якім мы пісалі, могуць служыць, акрамя Museo Antropologico Montane (18.04.1996; хаця і знаходзіцца пры біялагічным факультэце Гаванскага ўніверсітэта, не абмяжоўваецца фізіка-антрапалагічнымі калекцыямі) і American Anthropological Association (Вашынгтон, 10.03.1993, ліст у скарочаным выглядзе з'явіўся ў яе "Anthropology Newsletter"), Нацыянальны інстытут антрапалогіі (Instituto Nacional de Antropologia, Буэнас-Айрэс,



***Michael McKinney's wife Lena with their children Steve and Shawn and their guest from Magadan Lyuba (Anchorage, Alaska, August 1991)***




***Back of photo from Michael McKinney 1991***

26.06.1993), Department of Anthropology, California State University, Chico (29.12.1993, 1.09.1995) і шэраг іншых падобных.

*

Амерыканістыка ў Беларусі ўсё яшчэ знаходзіцца ў стадыі станаўлення, а антрапалагічная амерыканістыка, якая ствараецца ўласна беларускімі аўтарамі, можа быць складзеная толькі з фрагментаў тэкстаў - у прыватнасці, з падручнікаў па агульнай фізічнай антрапалогіі і прац па антрапалогіі насельніцтва Беларусі. Але ўклад у гэтую галіну беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, якія працавалі і працуюць за яе межамі, напаўняе гістарыяграфічны нарыс істотнай колькасцю інфармацыі.

Беларуска-індзейскае таварыства (БІТ), створанае спачатку як арганізацыйная група ў 1987 г., павінна было аб'яднаць энтузіястаў, якія былі б зацікаўленыя ў калектыўных намаганнях. Ініцыятыва ў выніку не рэалізавалася ў рэгулярнай сумеснай дзейнасці яго членаў, але вынікі абменаў, якія ішлі паміж найбольш актыўнымі з іх, апрацоўкі інфармацыі па амерыканістыцы могуць быць прасочаная ў друку, электронных выданнях і на стабільных ("ідэалагічна" і тэхнічна) сайтах. Адсутнасць юрыдычнага статусу і спыненне на мяжы стагоддзяў



*Eduard Gutkin goes to Indians 1994*




*Эдуард Гуткин: "По дороге к индейцам" "Жаль что ты не здесь!" 1994*



*Gutkin's comments 1994*



*Бясспрэчна індзейскія твары. З каліфарнійскіх фота Эдуарда Гуткіна. 1944*




*Gutkin's comment: "Это один из тех, кто шел в первом ряду парада. На коляске. Он инвалид. Не похож на индейца". 1994-05-28*

практыкі згадвання таварыства як дзейнай структуры не з'яўляецца перашкодай для пераліку немалых дасягненняў БІТ у генерацыі ідэй, вядзенні актыўнай перапіскі з індзейцамі і звязанымі з імі асобамі ў дзясятках краін. На аснове сабранай бібліяграфіі выяўляліся перспектыўныя для супрацоўніцтва прадстаўнікі найбольш важных для індзеяністыкі дысцыплін - першымі былі этнографы, антраполагі і гісторыкі.

*

Інфармацыйная сістэма БІТ прадугледжвае скразны аналіз эпісталярных і бібліяграфічных (імкненне да выкарыстання поўных тэкстаў) крыніц. Ажыццяўляецца цытаванне і каментаванне асноўных зваротаў, незалежна ад іх рэальнага выніку. Бібліяграфічнае суправаджэнне дапамагае дапоўніць карціну пошукаў беларускіх індзеяністаў у антрапалагічным кірунку.

*

Збор звестак пра паходжанне (нацыянальнасць) вучоных, пра якія ідзе гаворка ў лісце да І. Салівон (14.03.1988), - звязаны з навуковай этыкай, паколькі павінна быць нейкая стрыманасць, асабліва на нацыянальнай тэрыторыі, дзе "ўсе беларусы". Тым не менш, для даследчыка дыяспары натуральная цікавасць найперш да ўраджэнцаў і носьбітаў біялагічных рыс тытульнай нацыі, таму пастаноўка пытання пра "нацыянальнасць" антраполагаў ў гэтым выпадку зусім прымальная.

*

У пэўным сэнсе да антрапалагічных кантактаў можна аднесці адмен лістамі з супрацоўнікамі Музея антрапалогіі і этнаграфіі ў Ленінградзе-Санкт-Пецярбургу (Г. Дзеніскевіч [13], А. Дрыдза, Р. Кінжалаў у папяровы перыяд, С. Корсун, Ю. Бярозкін, М. Станюковіч, А. Новік і інш. - у электронны).

*

У лісце да А. Мальдзіса (4.02.1991, № 24) сфармуляванае пытанне па тэме супрацоўнікаў МАЭ з беларускімі каранямі.

"Мы вельмі ўдзячны Вам за прыемную вестку пра намер Скарынінскага цэнтра падтрымаць БІТ. У каго (маю на ўвазе верагоднага "куратара") мы маглі б высветліць падрабязнасці?

Ведаем, што для слоўніка "Беларускія пісьменнікі" патрэбны звесткі пра Янку Субача, у некалькіх крыніцах па музеязнаўству мне сустракалася прозвішча Субач - "И.Н. Субоч". Надзвычай цікавы чалавек, бо ў пачатку стагоддзя працаваў "служителем" у Музеі антрапалогіі і этнаграфіі, уладкоўваў і амерыканскія калекцыі. Што беларус - больш чым верагодна, да таго ж "И." - Іван (?)".

Museo Antropologico Montane
Facultad de Biologia
Universidad de la Habana
Habana 4
Cuba

April I8, I996

Dear Colleagues:

Your address is one of the few we have in our "Cuban" directory. It is a pity that the country which gave rise to Latin American Studies in the Soviet Union in the I960s is now more "distant" than Mexico or Jamaica.

Our main interest is of course the Indians of Cuba. A valuable source on the survivors was published in Moscow in I974. Miloslav Stingl mentions your Museum as an important center of research and your scholars, particularly Dr. Manuel Rivero de la Calle.

It is important to obtain an account of your current work and any update on the Indian community for informing our recipients and the public.

We would be happy to maintain contact with you.

Sincerely yours,

Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian-Indian Society

***Carta al Museo Antropologico Montane, Facultad de Biologia, Universidad de La Habana (Cuba) 1996-04-18***

Ms. C. Hidalgo, Director
Instituto National de Antropologia
3 de Febrero 1370-78.
1426 Buenos Aires,
Argentina

March 26, 1993

Dear Ms. Hidalgo:

We are interested in cooperation with Argentine researchers. We study Byelorussian - American Indian relations, 1492-1993, and have some questions relating to our Slavic/East European contribution to American Indian studies in Argentina. For example, we have paid attention to your senior researcher L. Slawsky (Politica indigenista y participation (1988)). We will appreciate a biobibliographical list of Russian - born anthropologists.

It is difficult to compile a full bibliography of the Indians of Tierra del Fuego. For our study we need information on fiction about these tribes. (Yanka Maür, a well-known Byelorussian writer, is the author of perhaps the first (former) Soviet book on the Fuegians (The son of water, Minsk, 1928). Maybe he is the first in the world as a socialist indigenist (i.e. indianist in a socialist country)?

Thank you very much.

Sincerely,

Ales Simakou
Executive Secretary
Byelorussian - American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

P.S. We hope to know more about your Institute and its activities (in the field of Native and Slavic Argentinean studies).

***Carta a Cecilia Hidalgo, Directora, Instituto Nacional de Antropologia (Buenos Aires, Argentina) 1993-06-26***

*

Наша цікавасць да пытанняў антрапалогіі, як і археалогіі, была параўнальна нізкай з прычыны большай увагі да сацыякультурных тэм (і, такім чынам, фіксуючы "беларуска-індзейскую" інфармацыю па антрапалогіі, больш важнай лічылі не нярэдкую ў ёй кампаратывістыку, а праблемы расізму, расавай дыскрымінацыі; "Беларуска-індзейская бібліяграфія", тым не менш, рэгіструе асвятленне расавай праблематыкі ўніверсальна, у тым ліку ў газетах, энцыклапедыях, папулярных кнігах, калянавуковых зборніках. У 2020-я гг. у сувязі з нашым праектам "Беларусы сустракаюцца з індзейцамі" антрапалагічная кампетэнтнасць атрымала і новае значэнне: фатаграфіі ўдзельнікаў прамых беларуска-індзейскіх кантактаў з'яўляюцца матэрыялам, які можа выкарыстоўвацца ў





нацыянальных дапаможніках па антрапалогіі, а лабараторныя заняткі могуць уключаць прыклады самаідэнтыфікацыі так званых pretendians (асоб, нярэдка знакамітых, якія не мелі індзейскіх продкаў або, маючы такіх у Лацінскай Амерыцы, прэтэндавалі на паходжанне ад больш "прэстыжных" плямён ЗША і Канады).

*

"Антрапалагічныя прыгоды" некалькіх катэгорый нашых землякоў - тых, хто працягваў дзейнічаць у Беларусі, і тых, хто накіраваўся на захад або ўсход, - складаюць тэмы, узнятыя ў перапісцы.

Намі не забыта і надрукаваная ў 1949 г. асобным выданнем лекцыя "Расизм - орудие империалистической реакции", прачытаная ў Менску П. Кірушыным, значную цікавасць якога да Лацінскай Амерыкі мы спрабавалі вывучыць і праз перапіску з асобамі, якія маглі ведаць яго і паведаміць падрабязнасці пра яго лёс (быў рэпрэсаваны).

*

Менскага антраполага Л. Цягака можна знайсці ў пераліку асоб, якія ў пісьмовай або вуснай форме перадалі пажаданні поспехаў ініцыятыўнай групе і будучаму Беларуска-індзейскаму таварыству, прывітанні і віншаванні ў адрас устаноўчага з'езда БІТ (1988 г.), станоўчую ацэнку ініцыятывы і абяцанні садзейнічання.

Толькі ў 2024 г. нам падказалі, у працэсе дапрацоўкі артыкула пра "антрапалагічныя матывы", што яна ездзіла на 9-ы міжнародны кангрэс па генетыцы чалавека ў Рыа-дэ-Жанейра ў 1996 г. Праўда, пасля вяртання ў Менск пра кантакты з індзейцамі яна калегам і блізкім, паводле іх саміх, не расказвала.

*

Ліст да М. Цвіркі-Гадыцкага ў Познань цяпер мы хацелі б даць і ў OCR. Хаця ён і адрасаваўся, з-за адсутнасці звестак пра апошнія гады яго жыцця, нябожчыку, мы лічым яго сімвалічным і дастаткова важным, каб цытаваць. Ён адлюстроўвае "высакароднае імкненне да пошуку", "пагоню за ведамі":

Ліст ад 11.02.1990 (№ 32):

*"Уважаемый пан Годыцкий!*

*Я использую адрес, взятый из источника 30-летней давности. К сожалению, не имею сейчас возможности уточнить его в новейших справочниках.*

*Мы очень надеемся получить Ваши любезные ответы на ряд вопросов, касающихся белорусско-польских связей в области антропологии. Нас интересует вклад наших соотечественников в антропологическое изучение индейцев.*

*Может быть, Вы укажете нам на соответствующие персоналии?*

American Anthropological Association
1703 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington, DC 20009

March 10, 1993

Dear Colleagues:

We are a group of Americanists dedicated to developing Native American research in Belarus and Byelorussian-American Indian relations.

We are interested in the lives and works of "Russian"-born American anthropologists and persons involved in Indian affairs.

We will appreciate "prompting" Byelorussians, Byelorussian Jews, Poles etc. among your members to establish correspondence (sometimes there are incomplete birthplace indications ("Russia" or "Poland") in directories, as for M.T.-ties; we have a list of promising names) and any information on, for example, Dr. Sonia Bleeker, born in "White Russia", who was a member of AAA.

I would like to know more about Dr. Morris E. Opler and other Apache students (I was an "Apachelogist" since about 1984 and have gathered material for a monograph; I continue to compile an Apache/Southwest bibliography with the "full" list of Byelorussian publications).

We hope to receive an update on your Association.
Thank you.
Sincerely yours,

(Mr) Ales Simakou
Executive Secretary
Byelorussian-American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter to American Anthropological Association (Washington, DC) 1993-03-10***




***Envelope from Claire R. Farrer, Department of Anthropology, California State University, Chico (Chico, CA) 1993-11-02 received 1993-11-20***

*Были бы Вам признательны также за помощь в изучении жизни и деятельности Ю. Цвирко-Годыцкого.*

*С наилучшими пожеланиями Алесь Симаков, временный исполнительный секретарь".*

Сярод індзейскіх пунктаў у навуковай творчасці М. Цвіркі-Гадыцкага - біяграфічны артыкул пра Л. Дудрэвіча, які правёў антрапалагічнае вывучэнне індзейцаў омаха, што гастраліравалі ў Варшаве ў 1884 г.

16.04.1990 г. мы напісалі ў Польскае антрапалагічнае таварыства (Польское антропологическое общество, Polskie Towarzystwo Antropologiczne, Варшава), спрабуючы атрымаць звесткі пра М. Цвірку-Гадыцкага і яго бацьку.

Мы адзначалі:

*"В нашем обществе изучаются белорусско-индейские связи, в том числе соответствующая деятельность антропологов - уроженцев Белоруссии".*

У якасці прыкладу быў згаданы і Т. Худзінскі:

*"Имеем намерение отметить юбилей Т. Худзиньского. Также были бы Вам признательны за рекомендацию полезных источников (включая публикации после*








***Антрапалогія? Physical anthropology? Прынамсі адзін персанаж малюнка - "амерыканоід". From a letter to Uladzimir Rabchynski (Уладзімір Рабчынскі, Pinsk) (sent back to Gomel by Yury Belov, envelope postmark 1981-03-01). Успамін 1981 г. пра адзін з гадоў паміж 1976 і 1978?***

*1959 г.).*

*Надеемся на сотрудничество с Вами".*

Хаця ў выніку прамое супрацоўніцтва не адбылося, мы працягалі збіраць польскі матэрыял, у якім знаходзіліся беларускія рэаліі.

*

Расійскія антраполагі Я. Рагінскі і М. Левін, этнадэмограф С. Брук прысутнічаюць у "Литературе" да кнігі М. і І. Чэбаксаравых "Народы, расы, культуры" (2-е выд., 1985).

Мы спрабавалі сабраць звесткі пра ўвагу да амерыканскага матэрыялу і іншых антраполагаў беларускага паходжання, у прыватнасці, І. Сілініча, які згадваецца ў лісце д. 4.07.1991 (№ 109) у Навукова-даследчы інстытут і музей антрапалогіі імя Д. М. Анучына (Научно-исследовательский институт и музей антропологии им. Д. Н. Анучина МГУ).

*"Уважаемые товарищи!*

*Были бы Вам благодарны за координаты людей, полезных для изучения жизни и деятельности Я.Я. Рогинского, уроженца Могилева, а также И.Н. Силинича, родом из Кричева Могилевской области.*

*Наше общество изучает белорусско-американские связи.*

*С уважением Алесь Симаков, временный исполнительный секретарь".*

Ветлівы адказ масквічоў па тэлефоне важны як факт першага водгуку ўласна расійскіх антраполагаў.

*

Аб'яднанне звестак з нашай перапіскі і бібліяграфіі, што адносяцца да антрапалогіі насельніцтва краін Амерыкі, утварае напрамкі, якія могуць у будучым складаць тэмы больш глыбокіх даследаванняў. Мы лічым важнымі першыя спробы амерыканістаў-аматараў Беларусі, даследчыкаў беларуска-амерыканскіх сувязей сфармуляваць пытанні да афіцыйных антраполагаў. "Беларуска-індзейская бібліяграфія" з'яўляецца асноўным рухавіком, інструментам у пошуках і адкрыццях новых імёнаў асоб беларускага паходжання, якія закраналі ў сваіх тэкстах індзейскую тэму. Папаўненне біяграфічных слоўнікаў дадзенымі пра антраполагаў, звязаных з Беларуссю, і агульнай антрапалагічнай бібліяграфічнай базы Беларусі звесткамі пра крыніцы амерыканісцкай інфармацыі могуць быць найважнейшым укладам індзеяністаў у антрапалагічную навуку.

**ДАНЬКО Іван** (Ivan Danko) - Іван Антонавіч Данько жыў з 1910 па 1994 г.; 14.12.2024 г. мы атрымалі ад Макса Шчура "Аповед дзеда Івана пра аргенцінскіх індзейцаў" з кнігі ўспамінаў "Спроба эксперыментальнага канструявання сябе" ("Спроба экспэрымэнтальнага канструяваньня сябе"; з павагі да творца пакідаем тэкст у арыгінальнай версіі на тарашкевіцы).

У тэксце згадваюцца Буэнас-Айрэс (Buenos Aire) і правінцыя Кар'етэс (таксама Карыентэс, Corrientes)

***Макс Шчур***

### АПОВЕД ДЗЕДА ІВАНА ПРА АРГЕНТЫНСКІХ ІНДЫЯНАЎ

У Бўэнас-Айрэс Іван прыплыў з адным клункам і цыдулкай з адрасам Гоцкі ў руцэ.

Грошай у Івана заставалася вобмаль. Каля порту знаходзілася плошча Пляса дэ Бўэн Рэтыро, і там жа стаяў так званы іміграНцкі гатэль - сёньня там месьціцца музэй іміграцыі. "Гатэль" - гэта была адна назва. У вялікай залі папросту стаялі ўпрытык адзін да аднаго двух'ярусныя ложкі, якія каштавалі капейкі. Там іміґранты маглі перакантавацца да той пары, пакуль не знаходзілі сабе працу. Часьцей, аднак, праца знаходзіла іх: у гатэль рэгулярна прыходзілі прадпрымальнікі і, зноў жа, за пару капеек наймалі сабе рабочую сілу. Уладальнік гатэлю атрымліваў нейкі працэнт за пасрэдніцтва.

Затрымлівацца ў гатэлі Іван не зьбіраўся, яго чакала сустрэча з Гоцкам. Той працаваў на лесапавале ў правінцыі Кар'ентэс, далёка на поўнач ад Бўэнас-Айрэсу. Таксама там нібыта давалі танную зямлю. На цыдулцы ў Івана стаяла напісаная лацінкай назва чыгуначнай станцыі, да якой ён меўся ехаць. Ехаў доўга, даехаў, выйшаў. Перад ім была вялікая рака, за ёю сьцяна джунгляў. Ніхто з сустрэчных не разумеў, чаго хоча й каго шукае гэты хлопец зь невядомай краіны. Нейкім чынам яму ўдалося патлу-

Dr. Nora Leibovich de Figueroa
Associacion Argentina de Ciencias
del Comportamiento
Tte. Gral Peron 2158
1040 Buenos Aires
Argentina

March I, I996

Dear Colleague:

We are sending you an appeal of our organizing committee to attract your attention to the centenary of Lev Vygotsky.
We would be happy to contact any of your members interested in the history of psychology in the former USSR.
It is important for our program to obtain a list of such persons as well as references to any publications on Vygotsky in Spanish for our biobibliography of the well-known scholar.
We would also like to know about your current work, first of all in the field of cross-cultural or indigenous psychology.
Sincerely yours,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P.O. Box II4
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Dr. Nora Leibovich de Figueroa, Association Argentina de Ciencias del Comportamiento (Buenos Aires, Argentina) 1996-03-01 RE Lev Vygotsky***



Мінск, снежань 2008 года

Паважаны Спадар Алесь Сімакоў!

Найперш прыміце мае самыя сардэчныя віншаванні з надыходзячым светлым святам Нараджэння Хрыстова і з наступаючым Новым 2009 годам! Моцнага здароўя, плёну ў працы, асабістага шчасця і – каб аніякія крызісы не пасмелі Вас закрануць!

Многія сваякі, сябры, калегі крыўдуюць, што рэдка пішу, нічога не паведамляю пра свае справы. А як тут паведамляць, калі старому каню даводзіцца цягнуць сем вазоў і мноства прычэпленых да іх тачак. Пералічу хаця б "вазы": 1. Аглядальніцтва ў "Голасе Радзімы" і "Советской Белоруссии", 2. рэдагаванне "Літаратурных мясцін Беларусі", 3. старшынёўства ў камісіі "Вяртанне" БФК, 4.старшынёўства (няхай і ганаровае, але клапатлівае) у Міжнароднай асацыяцыі Беларусістаў, 5. папаўненне базаў дадзеных па дыяспары, сувязях паміж краінамі і народамі etc, 6. членства ў вучоных саветах, рэдкалегіях, апаніраванне, навуковае рэдагаванне, рэцэнзаванне etc – ад навукі ніхто мяне, на жаль ці на шчасце, не адлучаў, 7. другое выданне даведніка "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах" – яно нібы закончана, але не аплачана (перад сябрамі ЧНК я адчуваю сябе ў адказе), таму сачыць за новымі беларускімі зоркамі на сусветным небасхіле даводзіцца, папаўняць рукапіс ў адзіночку даводзіцца, бо калісьці ж ён будзе запатрабаваны.

І толькі за ~~два~~ першыя два вазы гэтаму каню даюць аўса – калі болей, калі меней. Яно і тое добра. Бо як прыйдзе той няшчасны крызіс...

А тут яшчэ кожны дзень прыходзіць з дзесятак лістоў і электронных пасланняў. Выхад быў адзін – адказваць у тэлеграфным стылі.

Таму і выбраў я такую форму віншавання : перадкаляднай і перадаавагодняй споведзі-справаздачы. Раней у канцы кожнага года даводзілася пісаць справаздачы. Цяпер няма каму пісаць. Толькі Вам, сябры!

Дык што зроблена, чым магу ў перадкалядную і пераднавагоднюю ночы супакоіць сваё сумленне? Па-першае, лічу важным надрукаванне ў газеце "СБ. Беларусь сегодня" 13 вялікіх артыкулаў пра беларускія матэрыяльныя і духоўныя скарбы, якія

***Расказ дзеда Макса Шчура можна было б успрымаць як калядную казку, але мы верым яму... А вось калядныя рэаліі 2008 г. ад Адама Мальдзіса (снежаньскі агульны зварот да калег з індывідуальнымі "маргіналіямі", атрыманы 2008-12-27)***



знаходзяцца за межамі нашай краіны, рэагаванне на іх (асабліва сур'ёзнае – з боку Міністэрства замежных спраў). На гэтыя артыкулы затрачаны шэсць месяцаў (для напісання) і 20 год (для збірання матэрыялаў). Па-другое, да 540-годдзя роднага Астраўца зрабіў некалькі абагульняючых публікацый. Праўда, непасрэдна на юбілеі не пабываў: запрашэнне атрымаў, але тут жа яно было адклікана, бо ў дзеянне ўключыліся ірацыянальныя сілы (не мае землякі тут ініцыятары). І хоць на юбілейны феерверк не паглядзеў, аднак пачуццё выкананага абавязку засталося. Па-трэцяе, крануўся, з месца, хоць і са скрыпам калёс, воз пад назовам "Літаратурныя мясціны Беларусі": з блаславення спадароў Баравіковай і Карлюкевіча раздзелы даведніка папярэдне, для апрабацыі, друкуюцца ў "Маладосці."

.....А цяпер – другі бок медаля: што не зроблена. О, тут пералік можа быць доўгі. Але таксама назаву толькі тры даўгі. Па-першае, так і не дабіўся, каб маёмасць (мастацкая, кніжна-інфармацыйная) былога Скарынаўскага цэнтра, якая цяпер саштабелевана ў корпусе № 7 дзяржпедуніверсітэта, была перададзена туды, дзе можа быць запатрабавана. Па-другое, бессаромна (перад сваім сааўтарам з Санкт-Пецярбурга Валянцінам Грыцкевічам) зацягнуў перавыданне супольнай кнігі "Шляхі вялі праз Беларусь". Адзінае суцяшэнне, што рэдактар з "Рыфтура" нарэшце чытае раздрукоўку гэтай кнігі. Па-трэцяе, а гэта мой даўні і моцны боль, так і не ўзяўся за восьмы, свой воз – за дапісванне распачатых кніг "Як жылі нашы продкі ў XIX стагоддзі", "Кладачкі" свайго жыццяпісу і аповесць, падзеі якой адбываюцца ў Нясвіжы ў XVIII і XXI стагоддзях ("як яно раней і цяпер"). Сваё – ляжыць, чакае. Чаго?

І яшчэ смяротным грэхам (mea maxima culpa) лічу тое, што на радзіму з'ездзіў толькі раз і толькі на тры дні. Нібы забыў словы Рыгора Барадуліна, што дома трэба бываць часцей, каб не "страціць святое штосьці".

Абяцаю Вам, дарагія сябры, у 2009 годзе не страчваць. Або як мага меней страчваць. Чаго і Вам жадаю.

Ваш
А. Мальдзіс

***…І ў перадсвяточныя дні Мальдзіс згадвае, што вядомых яму выпадкаў з крызісамі калекцый у Беларусі і замежжы - дзясяткі***

мачыць, што ён шукае лесарубаў. Яму прыблізна паказалі дарогу ў мясьціны, дзе высякаюць лес. Ён дабраўся і туды, але ні Гоцкі, ні ягонай брыгады не знайшоў.

Але шукаў пільна - настолькі, што ажно заблукаў у тых джунглях.

На гэтым ягоная гісторыя магла б і скончыцца, калі б не шчасьлівы выпадак.

У лесе самлелага маладзёна знайшлі мясцовыя жыхары - індыяне. Не "індзейцы", плястмасавыя ці гумавыя фігуркі з нашага дзяцінства, і не размаляваныя й аздобленыя пер'ем дзікуны з кніг і фільмаў. А сапраўдныя - жыхары джунгляў.

Можаце сабе ўявіць, якім героем быў для мяне дзед Іван з таго моманту, калі апавёў мне пра сваё знаёмства з індыянамі.

Індыяне мелі доўгія валасы й былі цемнаскурыя, а ў астатнім выглядалі й апраналіся "як белыя людзі" - то бок, мажліва, нават лепей за беларускіх сялянаў.

Апроч вопраткі, яны саступалі сялянам ува ўсім, жылі бедна. Хаты ім замянялі дуплы вялізных дрэваў, зь вецьця яны майстравалі штосьці накшталт буданоў. Племя было качэўнае, перасялялася "за працай" - а займаліся яны ўсё тым жа, што і белыя людзі, валілі сваімі мачэтэ

лес. Які потым здавалі гаспадарам, а за выручаныя грошы набывалі сабе рэчы першай неабходнасьці. Пасьля чаго зноў сыходзілі ў джунглі, на новае месца.

"Такіх добрых і ласкавых людзей я больш у жыцьці не сустракаў", - прызнаваўся зь лёгкай скрухаю дзед.

Ён жыў зь імі, харчаваўся зь імі й працаваў зь імі тры месяцы. Яны ж навучылі яго азам гішпанскай. Такі сабе аднаасобны летнік для ўцекача.

Зь дзедавых аповедаў мне асабліва запамяталася сцэна паляваньня на гіганцкую ігуану. Індыяне іх не забівалі, а ставілі на іхных сьцежках пастку - лавілі, адсякалі здаравенны хвост і адпускалі. У хвасьце было некалькі кіляў сакавітага мяккага мяса - праз нейкі час хвост адрастаў зноў, і сцэна паўтаралася.

Урэшце, аднаго дня індыяне выйшлі з джунгляў, каб сустрэцца зь перакупнікамі лесу - тыя зьдзівіліся, убачыўшы сярод іх белага хлопца. Іван, пры ўсёй любові да індыянаў, узрадаваўся "сваім" - усяму таму, што ўспрымаў як знакі цывілізацыі. Індыяне шчодра разь-лічыліся з Іванам за працу, нягледзячы на тое, што кармілі яго ўвесь гэты час задарма, - а перакупнікі давезьлі яго да чыгуначнай станцыі. 17-гадовы хлапчук вярнуўся ў Бўэнас-Айрэс.

**ЖАВАРАНКАЎ Лазар** (Lazar Zhavarankau, Zhavoronkov) - у Пінску ў сувязі са студэнтамі з Нікарагуа нам найбольш запоўніўся камсамольскі сакратар Сяргей Войтаў (Siargei Voitau, Sergei Voitov). У нашай картатэцы пазначана, што ён нарадзіўся ў Гомелі. Магчыма, мелася на ўвазе, што ён да Пінска жыў у Гомелі. Інфармацыя пра гэта магла быць атрыманыя толькі ад яго самога - у час нашай сустрэчы 9.03.1987 г., калі абмяркоўвалася тэма нікарагуанскіх студэнтаў. Аўтар БСІ быў тады ў Пінску на прафесійных курсах па лініі сваёй гомельскай меліярацыйнай арганізацыі.

Усяго ў нашым дзённіку запісаныя звесткі пра 7 нікарагуанскіх студэнтаў (у першы перыяд вядзення дзённіка блакнот рабіўся са сшыткаў і альбомаў для малявання, каб яго фармат адпавядаў аднаму з фарматаў нашай картатэкі - 100х200 мм; апошні выконвае і функцыі раздзяляльніка-арыенціра паміж карткамі меншых фарматаў; з трох картак можна ўтвараць фармат А4, старонку-калаж саматужнага зборніка тэкстаў і выяў).

1. Сепеда Харкін, Хуан Арманда (1955, Леон = Leon) Zepeda Jarquin, Juan Armando = Сепеда Харкин, Хуан Армандо (пазначана, што ён, верагодна, індзеец?);

2. Варгас Дельгада, Анхель Рональда (Леон = Leon) Vargas Delgado, Angel Ronaldo = Варгас Дельгадо, Анхель Рональдо;

3. Караско Муньёс, Эмір (1962, Чынандэга = Chinandega) Carrasco Munos, Emir = Карраско Мунтос, Эмир;

4. Роке Мантальван, Хасэ (1962, Манагуа =Managua) Roque Montalvan, Jose = Роке Монтальван, Хосе;



*Індзеяніст пераехаў з Пінска ў Гомель (1978), але ў 1982 г. і пазней не дадумаўся сустрэцца з нікарагуанскімі студэнтамі - ні ў Гомелі, ні прыязджаючы ў госці да сяброў у Пінск*



Алоха, Каоха и прочее!
Здравствуй!
Ты даже не представляешь, как я соскучился по твоей личности. Много, очень много времени мы не виделись. Теперь уже не сосчитать как долго это продолжается.

Невероятно рад твоим успехам в сборе информации и со своей стороны считаю необходимым добавить несколько названий книг: „Нея-рассуди"-очень объемистая статья в этой книге посвящена проблеме австрал. аборигенов (это настоящая находка для тебя); „Иностранная литература" (за 1976 г.) (столь знакомый тебе журнал) - в нем статья о знаменитом художнике-аборигене (сколько можно знаменитых художников на такой небольшой народ, как аборигены? Над этим стоит задуматься

***Letter to Vladimir Riabchinsky (Владимир Рябчинский, Pinsk) 1981-03-01 (у ілюстрацыі да арт. "Антрапалагічная мазаіка (2)") гл. таксама гумарыстычны малюнак з адваротнага боку гэтага ліста***





5. Каналес Дуартэ, Хуліа Сесар (1956, Хінатэга = Jinotega) Canales Duarte, Julio Cesar = Каналес Дуарте, Хулио Сесар;

6. Мора Артавія, Франсіско Хавіер (Хав'ер) (1962, Манагуа = Managua; Mora Artavia, Francisco Javier = Мора Артавия, Франсиско Хавиер (Хавьер; пазначана, што ён з Коста-Рыкі?);

7. Марцінес Гіда, Антоніа (1957, Леон = Leon) Martinez Guido, Antonio = Мартинес Гидо, Антонио (верагодна, Гидо, а не Тидо).

У адным месцы ёсць указанне на гады вучобы: жнівень 1982 г., жнівень 1985 г.; па набытых спецыяльнасцях - сельскагаспадарчыя кааператыўныя прадпрыемствы (у адным выпадку - меліярацыя?) - некаторыя працуюць; ад былых студэнтаў або ў іх, паводле лістоў, што атрыманыя, "прыемнае ўражанне".

На наступнай старонцы дзённіка (с. 8) пазначаныя таксама ў сувязі з іншаземцамі адказны сакратар па справах замежных студэнтаў Жаваранкаў Лазар Аляксандравіч (Жаворонков Лазарь Александрович) і Паддубіцкі Іван Антонавіч (Поддубицкий Иван Антонович, Ivan Poddubitsky). Жаваранкаву, па назве яго пасады, і варта аддаваць першынство ў тэме.

**Літ.:**

*1493 Круцько А. Цікавая знаходка // Звязда на меліярацыі Палесся (Пінск). 1979. 23 студз.*

*1655 Мураўёў С. Белы правадыр месяца // Звязда на меліярацыі Палесся. 1980. 29 ліп.*

*500 Кудраўцава Т. ЗША: права на бяспраўе // Звязда на меліярацыі Палесся. 1984. 14 ліп.*

*2141 Чыгір М. Патрабуючы міру, свабоды // Звязда на меліярацыі Палесся. 1985. 3 верас.*

*1476 Косцін М. На кругах пекла // Звязда на меліярацыі Палесся. 1985. 19 верас.*

*1477 Косцін М. Пад ценем свастыкі // Звязда на меліярацыі Палесся. 1986. 13 сак.*

*1057 Васілец В. Дзень правоў чалавека: гутарка на міжнародныя тэмы // Звязда на меліярацыі Палесся. 1987. 8 снеж.*

*12557 Государства Центральной и Восточной Европы в исторической перспективе: сборник научных статей по материалам IV Международной научно-практической конференции, Пинск, 20-21 декабря 2019 г. / редкол.: К. К. Шебеко [и др.]. Пинск, 2019. Вып. 4.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by),*
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 129].***

# Віншуем “Крышталікі”

Віншуем "Узорны аматарскі калектыў" ансамбль танца "Крышталікі" з перамогай ва II міжнародным шматжанравым конкурсе творчасці і мастацтва "Тэрыторыя чараўніцтва" і з ганаровымі месцамі лаўрэатаў I і II ступені (кір. Лебядзевіч Ж.В.).



II МЕЖДУНАРОДНЫЙ МНОГОЖАНРОВЫЙ КОНКУРС ТВОРЧЕСТВА И ИСКУССТВ
«ТЕРРИТОРИЯ ВОЛШЕБСТВА»

ДИПЛОМ

Лауреата I степени

НАГРАЖДАЕТСЯ

«Образцовый любительский коллектив» ансамбль танца
«Крышталікі»
Государственное учреждение «Березовский городской Дом культуры»

РУКОВОДИТЕЛЬ: Лебедевич Жанна Викторовна
НОМИНАЦИЯ: Хореографическое искусство
НАПРАВЛЕНИЕ: Народный танец
КАТЕГОРИЯ: Ансамбль
ВОЗРАСТНАЯ ГРУППА: 9-12 лет
КОМПОЗИЦИЯ: Белорусский народный танец "Ятусь"

Республика Беларусь

Председатель жюри
Народный артист России

А.П. Милованов

ОРГКОМИТЕТ

г. Липецк 16 12 2024г



II МЕЖДУНАРОДНЫЙ МНОГОЖАНРОВЫЙ КОНКУРС ТВОРЧЕСТВА И ИСКУССТВ
«ТЕРРИТОРИЯ ВОЛШЕБСТВА»

ДИПЛОМ

Лауреата I степени

НАГРАЖДАЕТСЯ

«Образцовый любительский коллектив» ансамбль танца
«Крышталікі»
Государственное учреждение «Березовский городской Дом культуры»

РУКОВОДИТЕЛЬ: Лебедевич Жанна Викторовна
НОМИНАЦИЯ: Хореографическое искусство
НАПРАВЛЕНИЕ: Народный танец
КАТЕГОРИЯ: Ансамбль
ВОЗРАСТНАЯ ГРУППА: 16-19 лет
КОМПОЗИЦИЯ: Белорусский танец, полька "Агульная"

Республика Беларусь

Председатель жюри
Народный артист России

А.П. Милованов

ОРГКОМИТЕТ

г. Липецк 16 12 2024г



II МЕЖДУНАРОДНЫЙ МНОГОЖАНРОВЫЙ КОНКУРС ТВОРЧЕСТВА И ИСКУССТВ
«ТЕРРИТОРИЯ ВОЛШЕБСТВА»

ДИПЛОМ

Лауреата II степени

НАГРАЖДАЕТСЯ

«Образцовый любительский коллектив» ансамбль танца
«Крышталікі»
Государственное учреждение «Березовский городской Дом культуры»

РУКОВОДИТЕЛЬ: Лебедевич Жанна Викторовна
НОМИНАЦИЯ: Хореографическое искусство
НАПРАВЛЕНИЕ: Народный танец
КАТЕГОРИЯ: Ансамбль
ВОЗРАСТНАЯ ГРУППА: 13-15 лет
КОМПОЗИЦИЯ: Белорусский народный танец "Весялуха"

Республика Беларусь

Председатель жюри
Народный артист России

А.П. Милованов

ОРГКОМИТЕТ

г. Липецк 16 12 2024г

Жадаем калектыву яшчэ больш натхнення, энергіі і поспеху, а таксама новых перамог!

***ТК “Культура Лідчыны”.***





# Акцыя-віншаванне "Навагодні серпантын"

20 снежня бібліобус Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы выконваў аб'езд чытачоў па маршруце Паперня-Меeры-Дылева.















Бібліятэкар бібліобуса напярэдадні навагодніх свят падрыхтавала акцыю-віншаванне "Навагодні серпантын". Яна прыгатавала чытачам навагоднія падарункі. Вельмі ўражаны былі жыхары вёсак, калі разам з бібліятэкарам убачылі навагодніх персанажаў Снегавіка і Ёлачку. Нават многія з задавальненнем чыталі вершы і спявалі навагоднія песні.

*ТК "Культура Лидчыны".*

**Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**Адрас рэдакцыі:**
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:**
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 23.12.2024 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3,5 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*